# ЛАБІРЫНТ



*№22, студзень 2013*

***Студэнцкая гістарычная суполка "Аматары Беларускай Гісторыі імя В. Ю. Ластоўскага"***

## "Я не вучу вас, я толькі магу натхняць...."



20 студзеня памёр гісторык і адзін з айцоў руху за незалежнасць.

Міхась Чарняўскі быў гісторыкам, археолагам, краязнаўцам. Ён быў у тым гурце людзей, якія ў савецкі час у Мінску прынцыпова гаварылі па-беларуску і фармавалі падпольны рух за незалежнасць.

Анкалагічная хвароба прыпыніла нястомную працу гісторыка і неўзабаве вярнулася.

Ён нарадзіўся 7 сакавіка 1938 года ў вёсцы Круці Мядзельскага раёна. Гісторыяй, археалогіяй захапіўся яшчэ ў дзяцінстве. Яшчэ ў юнацтве сутыкнуўся з улёткамі Смаргонска-Мядзельскага незалежніцкага падполля, групы Расціслава Лапіцкага. Яны выклікалі вялікія перажыванні ў душы падлетка, што і сам бачыў русіфікацыю і несправядлівасць савецкага рэжыму.

Вучыўся ў Мінску, стаў навукоўцам. Разам з Уладзімірам Караткевічам, Зянонам Пазняком быў удзельнікам клуба вальнадумнай беларускай інтэлігенцыі «Акадэмічны асяродак», разгромленага ў 1973–74. Міхась Чарняўскі тады быў звольнены з працы, сутыкнуўся з КДБ.

У 1988–1989 Чарняўскі быў сярод стваральнікаў Народнага Фронту, адраджаў сацыял-дэмакратыю.

Як навукоўца, Міхась Чарняўскі вывучаў нёманскую археалагічную культуру і крывінскі варыянт нарвенскай культуры, даследаваў крэмнездабыўчыя шахты ў Ваўкавыскім раёне, помнікі каменнага і бронзавага веку ў іншых мясцінах Беларусі. Удзельнічаў у падрыхтоўцы «Гісторыі беларускага мастацтва», «Археалёгіі Беларусі» і «Гісторыі Беларусі» ў шасці тамах. Кансультаваў энцыклапедыю «Археалогія і нумізматыка Беларусі» і Энцыклапедыю гісторыі Беларусі.

Міхась Чарняўскі напісаў і захапляльныя дзіцячыя кнігі пра старажытныя часы: «Страла Расамахі», «Вогнепаклоннікі».

Яго зацікаўленасці не абмяжоўваліся старажытнай гісторыяй. Дзеля папулярызацыі забытых старонак гісторыі Беларусі, Чарняўскі напісаў кнігі «Правадыр крылатых вершнікаў Ян Кароль Хадкевіч», «Дзесяць бітваў» і «Як пошуг маланкі. Расціслаў Лапіцкі». Апошняя вяртала гісторыі забытае імя аднаго з удзельнікаў пасляваеннага антысавецкага супраціву.

Гэтым летам Міхась Чарняўскі збіраўся здзейсніць даўнюю мару — зладзіць раскопкі гарадзішча ў роднай вёсцы. Цяпер гэта мусіць зрабіць ягоны сын, таксама археолаг. Пахаванне Міхася Чарняўскага адбудзецца 22 студзеня на радзіме, у вёсцы Круці Мядзельскага раёна Мінскай вобласці.

# Пакаленне by: беларуская літаратура ў інтэрнэце

Інтэрнэт дае чалавеку безліч карысных магчымасцей, між якімі і магчымасць пазнаёміцца з сучаснай беларускай літаратурай, пачытаць класікаў, без доўгіх пошукаў набыць кнігу ўлюбёнага аўтара. Пры гэтым нават дасведчаны карыстальнік Інтэрнэту можа быць сталым наведвальнікам пэўнага літаратурнага сайта ці блога, але не ведаць якога-небудзь вельмі карыснага адраса…



Маргарыта Аляшкевіч прапануе спіс спасылак на самыя папулярныя рэсурсы, якія камусьці будуць за навіну і, магчыма, стануць чарговай добрай знаходкай. Такі карысны артыкул з "ЛіМа" варта выразаць і захаваць!

***Літсупольнасць***

Беларуская літаратура ў інтэрнэце — гэта шмат магчымасцей прыемна прабавіць час, знайсці суразмоўцаў, прыдбаць усялякія прыкольныя рэчы і выявіць сябе. Куды ісці найперш, дзе, за што і што за смакоцце даюць — разбіраемся разам.

Для аматараў літаратуры карыснымі будуць тутэйшыя тэматычныя групы, напрыклад, "у кантакце" можна наведаць суполку "Сучасная беларуская літаратура" (http://vk.com/club1itaratury).

Сённяшнія літаратары — людзі вясёлыя ды неспакойныя, то вечарыну зладзяць — і вы можаце яе наведаць, то праект нейкі запусцяць — і вы можаце ў ім паўдзельнічаць, то з крытыкамі пачнуць заядацца — і вы можаце падтрымаць ці пісьменніка, ці крытыка… Таксама вартыя ўвагі суполкі, прысвечаныя асобным творцам, мне асабіста імпануюць гэтыя дзве: "Я ♥ дзядзьку Караткевіча" (http://vk.com/ club1327087, тут гуртуецца каля 1200 чалавек), і больш камерная " Максіма Багдановіча" (http://vk.com/club6071256), якую вядзе паэтка Валярына Кустава.

Падобныя групоўкі ёсць і ў блогасферы. Блогасфера — гэта супольнасць сеткавых дзённікаў (блогаў) і іх аўтараў (блогераў), а таксама блогі і іх узаемасувязі. Літаратараў у нас шмат, літаратараў-блогераў — каля 70, а вось папулярнымі блогамі могуць пахваліцца адзінкі, пра іх гаворка будзе ніжэй. Сярод суполак наведайце наступныя:

- lit_krytyka — тут прадстаўленыя сучасная літаратурная крытыка, літаратурная журналістыка, літаратуразнаўства, кніжныя агляды;
- by_litara — Беларускае літаратурнае кам'юніці, якое таксама выглядае досыць мазаічна.

Пакорпаўшыся там, можна выйсці шмат на якія калялітаратурныя рэсурсы.

Правобразам гэтых суполак і піянерам нашай літаратурнай інтэрнэт-прасторы з'яўляецца litara.net, што абяцае распавесці літаральна ўсё пра сучасную беларускую літаратуру. Тут знойдзеце: навіны сучаснага літаратурнага жыцця; рэцэнзіі, інтэрв'ю, тэарэтычныя матэрыялы; афішу культурных падзей; каталог беларускіх выданняў, выдавецтваў і персаналій беларускай літаратуры.

Сярод кірылічных літаратурных груповак самай масавай, па меркаванні Яндэкса (http://blogs.yandex.ru/top/com/), з'яўляецца "Книжный бум":http://www.liveinternet.ru/com munity/858158/. Суполка вядзецца на рускай мове, абмяркоўваюцца тут кнігі з усяго свету.

Прываблівае менавіта шырыня ахопу і разнастайнасць ацэнак — тут кожны знойдзе сабе сяброў па розуме.

***Як прайсці ў бібліятэку***

Людзі мінулага веку любілі бавіць час у бібліятэках, сярод пыльных фаліянтаў і зялёных абажураў…

Сёння можна далучацца да сусветнай інфармацыйнай прасторы не выходзячы з дому — праз электронныя бібліятэкі.

Адна з найбуйнейшых па беларускай літаратуры — kamunikat.org, Беларуская інтэрнэт-бібліятэка, якая існуе з 2000 года. На

працягу дзесяцігоддзя “Камунікат” змяняўся, а колькасць матэрыялу, даступнага на сайце, усё павялічвалася. У верасні 2007 года рэсурс канчаткова аформіўся як цалкам прафесійны сайт з каталогам, пошукавай сістэмай, падпіскай на абнаўленні (RSS), топ-спісам выданняў і шмат чым яшчэ. Змешчаныя тут кнігі, часопісы ці артыкулы абавязкова датычацца Беларусі, напісаныя па-беларуску, нейкім чынам закранаюць беларускую тэматыку. Цяпер “Камунікат” — гэта не толькі збор адсканаваных выданняў і не толькі самая багатая калекцыя перыёдыкі з усіх, што мне асабіста трапляліся. Тут таксама знойдзеце: штодзённыя размовы пра беларускую літаратуру і культуру з эфіру нашага радыёвяшчання; інфармацыю пра навінкі беларускага выдавецкага рынку, пералік і біяграфіі беларускіх аўтараў — паэтаў, празаікаў, гісторыкаў, публіцыстаў.

Яшчэ адна зручнасць: на “Камунікаце” пачалі з’яўляцца кнігі ў фармаце ePub, які ўспрымаюць прылады для чытання электронных кніг.

Калі вы не знайшлі чагосьці на Камунікаце, раю зазірнуць на knihi.com — гэта “Беларуская Палічка” (Беларуская электронная бібліятэка) са зручнай навігацыяй. У адрозненне ад “Камуніката”, тут вам не трэба скачваць усю кнігу цалкам у pdf — можна чытаць асобныя творы ў звычайных тэкставых фарматах.

На bellib.net (BELARUSIAN eBOOKS LIBRARY) знойдзеце беларускую літаратуру ў замежных перакладах і замежную літаратуру ў перакладах на беларускую мову. Дарэчы, ёсць у сеціве і адмысловы перакладніцкі рэсурс – prajdzisvet.org, дзе перакладаюць не толькі пісьменнікаў-класікаў, але і нашых з вамі сучаснікаў з усяго свету.

Праблема многіх інтэрнэт-бібліятэк — гэта памылкі. Так, напрыклад, папулярная “Знічка” (znichka.ucoz.com) прапануе творы і біяграфіі беларускіх аўтараў, але ператварае Брыля ў “Бряля”, а ягоныя “Ніжнія” Байдуны ў “їхныя”…

***Шопінг для гультаёў***

Люблю папяровыя кнігі. Пах друкарскай фарбы, мяккі дотык паперы, шапаценне старонак… Але ўсё часцей замаўляю розныя выданні праз Інтэрнэт. Па-першае, гэта эканоміць час: куды прасцей увесці ў пошук імя аўтара ці назву кнігі і адразу патрапіць на патрэбнае выданне, чым лазіць па ўсіх паліцах кнігарні, а то яшчэ ездзіць па розных крамах горада, ганяючыся за рэдкай кніжыцай. Па-другое, яшчэ і грошай зберагу: у інтэрнэт-краме кошты, зазвычай, ніжэйшыя, чым у не-віртуальных крамах.

Сярод маіх улюбёных месцаў інтэрнэт-шопінгу — prastora.by. Крама спецыялізуецца на беларускай літаратуры, пры гэтым сярод тавараў вы знойдзеце кнігі, аўдыёкнігі, музыку, відэа і загадкавае Іншае. Свае замовы, зробленыя праз сайт або па тэлефоне, можна самастойна забраць у цэнтры Мінска або замовіць дастаўку поштай у любы рэгіён краіны.

Тое самае на oz.by, аднак тут вам прапаноўваецца не толькі і не столькі беларуская кніга. Затое можна плаціць за ўпадабаны твор самымі рознымі спосабамі: ад традыцыйнага разліку на пошце да EasyPay і наяўных грошай, калі вы забіраеце пакупку самі.

Інтэрнэт-крама vilka.by (Студыя кніг і аксесуараў “Відэлец”) прываблівае дызайнам. Калі адкрываеце старонку, вас вітаюць смешныя пластылінавыя чалавечкі, у якіх можна пазнаць класікаў літаратуры. Гэта вельмі душэўны сайт, прапануе кнігі, аксесуары для іх — вокладкі, падстаўкі і падобнае. Праўда, каб замаўляць кніжкі, дыскі і ўсялякія файныя штукі, трэба зарэгістравацца. Затое можна пачувацца ўдзельнікам закрытага (а значыць, элітнага) клуба.

***Асабістая справа, асабістая злева***

Біяграфіі творцаў часам даюць ключ да разумення іх твораў. Часам, канечне, і не даюць, але ўсё адно цікава пачытаць.

Найбольш поўны пералік літаратараў — на ўжо знаёмым нам “Камунікаце” (kamunikat.org/bielaruskija_autary) — больш як 150 асоб!

Націснуўшы на банер кожнага аўтара, атрымліваем яго біяграфію і спіс кніг, даступных праз гэтую бібліятэку. Такім чынам можна сцягнуць сабе ці не поўны збор твораў Васіля Быкава. Праўда, акцэнт тут на сучасных аўтараў, так што творы Францыска Скарыны давядзецца пашукаць асобна.

Існуюць і асабістыя сайты літаратараў. Узорнай тут будзе старонка

Уладзіміра Караткевіча http://www.uladzimir-karatkevich.com. Рэсурс нездарма адзначылі на Рэспубліканскім конкурсе адукацыйных сайтаў адразу ў дзвюх намінацыях — тут і біяграфія, прытым у некалькіх варыянтах, і бібліятэка (побач з творамі на беларускай і рускай мовах ёсць пераклады на іншыя мовы свету, прадстаўленыя мастацкія творы, публіцыстыка, дзённікавыя запісы і лісты; а яшчэ можна зайсці ў рубрыку "архіў" і скачаць усё гэта ў кампактным архіве). І галерэя маецца (фотаздымкі + ілюстрацыі да кніг), і крытычныя артыкулы пра творы Караткевіча, а таксама інфармацыя пра яго музей і шмат чаго яшчэ. А на сайце Васіля Быкава bykau.com, апроч падобных карысных рэчаў, ёсць інтэрв'ю ў фармаце mp3 — можна пачуць голас аднаго з самых знакамітых пісьменнікаў краіны.

Не такія багатыя, але ўсё адно карысныя рэсурсы:

• асабістыя старонкі творцаў, прапісаныя ў межах Нацыянальнага паэтычнага парталу: mihaszarecki.ru, yakubkolas.ru ды інш.; не самая зручная навігацыя, не самыя поўныя зборы тэкстаў, але хоць нешта;

• marakou.by — сайт даследчыка рэпрэсаванай літаратуры Леаніда Маракова;

• belkabinet.by — віртуальны кабінет беларускай мовы і літаратуры, ёсць добрыя падказкі для вучняў і настаўнікаў;

• vershy.ru — нацыянальны паэтычны партал, адсюль знойдзеце выхад на розныя літаратурныя старонкі; апроч ужо згаданых асабістых сайтаў літаратараў можна наведаць тэматычныя падраздзяленні паэзіі: напрыклад, вершы пра каханне — moykahany.ru, а ёсць і вершы пра Чарнобыль, і пра беларускую чыгунку;

• віртуальныя музеі: http://ivan-melezh.iatp.by/ — Іван Мележ,http://shamyakin-goub.iatp.by/ — Іван Шамякін; http://makaenak-goub.iatp.by/ — Андрэй Макаёнак, http://naumenka.goub.org/index.php — Іван Навуменка; http://sachenko.iatp.by/ — Барыс Сачанка.

Сайты сучасных літаратараў адрозніваюцца па афармленні і напаўненні. Сайт пісьменніка Сяргея Балахонава — адзін з самых папулярных беларускамоўных рэсурсаў у Сеціве: http://balachonau.puls.by/. Дарэчы, сцягнуць і прачытаць творы Сяргея Балахонава там таксама можна.

А яшчэ літаратары вядуць блогі. Журналіст Ася Паплаўская неяк спрабавала падлічыць, у яе атрымалася каля 80 літаратарскіх блогаў (глядзі тут: http://community.livejournal.com/lit_krytyka/3960.html).

Крытык і выкладчык Лада Алейнік спрабавала асэнсаваць ролю пісьменніцкіх блогаў у літаратурнай прасторы (чытай "ЛіМ" за 27 лістапада 2009 года ці шукай у блогу ўсё той жа Асі Паплаўскай), і яе высновы такія: "прастора livejournal — неабсяжная, а магчымасці тут — велізарныя, і выкарыстаць іх можна вельмі канструктыўна". Добрых знаходак!

**Артыкул:** *Маргарыты Аляшкевіч*



## Першакрыніцы

# ВЫСТУП ВАЦЛАВА ЛАСТОЎСКАГА

Панурыя часы агіднага рабства сялян у сваіх паноў мінулі. Цяпер па'дзіночных людзей не выводзяць бы статак на рынкі і не выстаўляюць на продаж. Але і цяпер, у нашы часы, існуюць перажыткі старога рабства. У нашы часы існуюць народы імперыялістычныя, якія маюць пад сабой, пад сваім панаваннем, народы, імі падбітыя. Гэтыя народы займаюць у імпэрыялістычных дзяржавах месца даўных рабоў. Іх імпэрыялістычныя народы адны ў адных купляюць і прадаюць, заваёвываюць і дзеляць. Іх можна грабіць, біць, заводзіць на іх роднай зямлі якія здумаюцца заваёўніку парадкі, сваю мову ўва ўрадах і школе, забіраць з іх зямлі прыродныя іх багацтвы, дабро, дабытак, працу і крывю іхных сыноў у радах чужацкіх войск

за чужыя паняволеным народам справы. У гэткім цяжкім і крыўдным палажэнні да апошняй сусветнай вайны была і Літва. Але Літва, таксама як Латвія, Эсція і Фінляндыя, а также як Чэхія і Ірландыя, вызвалілася з пут няволі. Цяпер у Літве сам літоўскі народ зьяўляецца гаспадаром усяго краю. Літоўская мова зьяўляецца мовай дзяржаўнай, усіх абавязуючай. У школах літоўскіх цяпер ніхто літвінам не накідае чужой мовы, ніхто не забірае літоўскаму селяніну яго зямлі, не насылае чужацкіх каляністых. Наадварот, землі памешчыцкія і былыя казённыя літоўскі Сойм пастанавіў раздаваць літоўскім сялянам. Зямля ж Беларуская, якая ў гістарычным мінулым станавіла адну сільную дзяржаву з Літвой, ня здолела ў часе гэтай вайны вызваліцца з няволі. І мы бачым, як там чужынцы гаспадаруюць. Рыскім мірам, заключаным у 1920 гаду паміж Расіяй і Польшчай, Беларусь гэтыя дзве дзяржавы, Польшча і Расія, разарвалі надвае, падзялілі паміж сабой жывы беларускі народ. І расійцы, і палякі абходзяцца з беларускім народам так, як калісь памешчыкі абходзіліся са сваімі сялянамі-прыгоннікамі. І там і тут беларусы прымушаны працаваць не для сябе, а для чужынцаў. І там і тут не свая, а чужая воля пануе над беларускім народам і над усёй беларускай зямлёй. Палякі высякаюць беларускія адвечныя пушчы і грошы за лес беларускі бяруць сабе. Палякі забіраюць лепшыя беларускія землі і раздаюць прыблудам, якіх надсылаюць з Польшчы. Палякі абіраюць беларускі народ цяжкімі падаткамі, данінамі і паборамі ды акцызамі. Палякі наслалі на Беларусь сваё чынавенства, паліцыю і войска, якіх павінен карміць паняволены беларускі народ. Палякі ўсіх тых, хто не маўчаў на польскія крыўды й здзекі, пасадзілі ў турмы, і іх налічаюць тысячамі. Палякі рукамі сваёй паліцыі б'юць і катуюць беларусаў, ды такімі спосабамі, аб якіх ужо даўно былі забыўшыся людзі на свеце. Палякі завялі на беларускай зямлі чужую беларусам польскую мову ва ўсіх урадах і ў школах. Гэтак паступаюць палякі з беларусамі, якіх занялі пад сваю абладу, пад сваё панаванне. А як паступаюць бальшавікі з тымі беларусамі, якія асталіся пад Расіяй? Яны ўтварылі Савецкую Беларускую Рэспубліку і крычаць на ўвесь свет, што гэтым далі беларускаму народу волю. А ці гэта так? Не! У савецкай Расіі "незалежная" Сацыялістычная Беларуская Рэспубліка не мае ні сваіх уласных грошы, ні свайго беларускага войска, ні сваёй асобнай беларускай пошты, ні сваіх чыгунак ані сваіх прадстаўніцтваў за граніцай. Якая ж незалежнасць, калі грошы ў руках у маскалёў, войска ў маскальскіх руках, чыгунка і пошта ў іх і зносіны з заграніцай у іх.

Савецкая незалежнасць дадзена беларусам у Расіі бяз войска, бяз пошты, бяз дарог, бяз зносін з заграніцай і бяз грошы. Гэтай куртатай "незалежнасцю" ў дадатак кіруе не ўвесь народ, а толькі адна камуністычная партыя, якую аплочвае Масква і якая за гэта верна Маскве служыць, абдураючы свой народ ды прадаючы яго ў маскальскую няволю. Камуністыя, як і палякі, высякаюць беларускія пушчы і прадаюць за граніцу, а грошы забіраюць у маскоўскую казну. Камуністыя, як і палякі, трымаюць у Беларусі сваіх маскалёў-чыноўнікаў.

Камуністыя па дворах, даўней панскіх, панасаджалі розных прыблудаў і не даюць зямлі беларускаму селяніну. Камуністыя ня горш палякаў абіраюць беларускага селяніна падаткамі й паборамі, пакідаючы селяніна галодным.Камуністыя, як і палякі, за працу для свайго беларус.

Камуністыя па дворах, даўней панскіх, панасаджалі розных прыблудаў і не даюць зямлі беларускаму селяніну. Камуністыя ня горш палякаў абіраюць беларускага селяніна падаткамі й паборамі, пакідаючы селяніна галодным.Камуністыя, як і палякі, за працу для свайго беларускага народа і за праўду саджаюць людзей у турмы й астрогі, б'юць і расстрэльваюць. Камуністыя, урэшце, і ва ўрадах і ў школах падтрымліваюць чужую беларусам расейскую мову. Гэты кароткі агляд палажэння беларусаў пад Польшчай і пад Масквой паказуе, што ні там ні тут не мае беларус свабоды, што і там і тут ён знаходзіцца ў няволі, у рабстве. Каторая няволя горшая, маскальская ці польская, сказаць цяжка. І саламенны, і раменны хамут муляе шыю. Мы бачым, як перад нашымі вачыма вызваляюцца адны за аднымі прыгнечаныя і паняволеныя народы, як яны скідаюць з сябе пачародна перапржавелыя путы палітычнай і культурнай няволі. Адны ўжо сягоння вольны і свабодны ў

сваіх дзяржавах, другіх гэта свабода чакае заўтра.
Усясветная вайна памагла ўцелаісціць свае дзяржаўныя ідэалы ўжо многім эўрапейскім народам, але яшчэ немалы лік другіх эўрапейскіх народаў стыгне ў путах дажываючага свой век імпэрыялізму. Да ліку гэтых апошніх належыць Беларускі народ. Усясветная катастрофа не атрасла пут няволі з Беларусі. Наадварот, польскі і расейскі імпэрыялізмы перакавалі на яе целе ланцугі няволі, парэзалі яе цела надвае, і кожны на сваёй часці шалее па-свойму. У часці Беларусі, што апынулася пад Польшчай, вядзецца ніколі не чуванае ў гісторыі забойства цэлага народа другім народам, забойства арганізаванае, свядомае, планавае. Зямлю беларускага народа, аблітую крывёй, потам і слязамі, усвячоную попеламі соцень пакаленняў, зямлю, на якой беларусы жывуць як запамятае гісторыя, палякі вырываюць з рук беларусаў і садзяць сваіх каляністых з Пазнаншчыны, Мазуршчыны, Вялікай і Малой Польшчы. Сталеццямі гадаваныя непраходныя беларускія пушчы, незлічонае багацце, аздоба і паэзія беларускага краю, падае пад сякерамі польскага наезніка і бяспланава і паспешна нішчыцца і вывозіцца за граніцу, абагачаючы польскі скарб. Беларускі народ, які выдаў спаміж сябе гэтулькі геніяльных імён, які мае на цэлае паўтысячалецце старэйшую літаратуру за польскую, пазбаўлены пад польскай акупацыяй магчымасці вучыцца ў сваёй роднай мове. Беларускі народ, які поплеч з палякамі ў час агульнага ліхалецця праліваў крывю за вызваленне раздзертай Польшчы ў часе ўсіх паўстанняў, цяпер атрымаў ад Польшчы за гэта адплату тым, што яна нялюдзка раздзерла Беларусь і перапоўніла турмы свае тысячамі беларусаў, якія вінны толькі ў тым, што паднялі руку сваю супроць польскай тыраніі. Словам, пад Польшчай Беларусь аграблена, зняверана і тоне ў моры крыві і слёз. Другая палавіна Беларусі апынулася ў старых, нанова пераладжаных, маскальскіх аковах. Мазаіка розных народнасцяў, склееная беспашчаднай тыраніяй усходнеазіяцкага тыпу, цэлыя сталецці трымала на сваіх плячах будынак расійскага імпэрыялізму. З упадкам царату расійскі імпэрыялізм атрымалі ў спадку камуністыя, якія, аднак, уступаючы напору жывога жыцця, агалосілі Сувязь Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. У тэорыі выходзіць, што паводле гэтага акта атрымала з рук камуністых незалежнасць і Савецкая Беларусь. Але на практыцы гэта савецкая “незалежнасць” толькі баламуцтва. Савецкая “незалежная” Беларусь, нават як яна цяпер выглядае ў пашыраным выглядзе, гэта толькі частка беларускіх зямель, выдзеленая ў земскае самаўпраўленне. Савецкая Беларусь ня мае свайго беларускага войска, ня мае сваёй беларускай манеты, ня мае сваіх асобных граніц ад усёй Расіі, ня мае сваёй беларускай школы. Менскі унівэрсытэт, Горацкі сельскагаспадарскі інстытут і другія школы абслужываюцца маскалямі або абмаскаленымі і іншымі элемэнтамі. Навука ў сярэдніх і вышэйшых школах выкладаецца па-расійску, лекцыі др.».
Так званае Менскае дзяржаўнае выдавецтва друкуе з грошы, збіраных з беларускага сялянства, у 10 разоў больш кніг па-расійску і на некалькі разоў больш друкуе кніг па-жыдоўску і па-польску, чым па-беларуску.
Камуністычная гаспадарка не менш за палякаў вынішчае краёвыя беларускія пушчы, сплаўляючы лес Дзвіной, Дняпром і Прыпяццю. Беларускі селянін у савецкай “незалежнай” Беларусі з году на год бяднее. Так, таксама як і пад Польшчай, вядзецца калянізацыя чужымі элемэнтамі беларускай зямлі.
Словам, савецкая незалежнасць ня мае пад сабой рэальных астояў, не мае перад сабой пэрспэктыў у будучыне. Пры далейшым ходзе такога палажэння, якое цяпер там ёсць, беларусаў чакае дэнацыяналізацыя, толькі ў іншым, чым пад Польшчай, сосе: у сосе камуністычным.
Беларускаму народу няма вызвалення ні праз Варшаву, ні праз Маскву. І праз Маскву, і праз Варшаву на Беларусь ідзе руіна і знішчэнне.
Толькі ў сувязі з братнімі дэмакратычнымі сялянскімі народамі Літвы, Украіны і другімі можа Беларусь дайсці свайго вызвалення, можа дастаць сваю дзяржаўную незалежнасць.
Літоўска-Беларускае таварыства, ставячы сваёй мэтай працу дзяржаўнага вызвалення Беларусі, кліча: Беларускі народ мае права на дзяржаўную незалежнасць. Карані гэтае незалежнасці жывыя ў беларускім народзе, аб чым сведчыць культура і гісторыя Беларусі.

Беларусь, разарваная Рыскім мірам і падзеленая паміж Польшчай і Расіяй, павінна быць аб'яднана ў адзін суцэльны дзяржаўны арганізм.

Справу рэалізацыі беларускай дзяржаўнасці павінна актыўна падтрымліваць літоўскае грамадзянства і грамадзянствы суседніх сялянскіх народаў, пашыраючы гэту ідэю ў сваім грамадзянстве і даючы падтрымку беларусам у міжнародных палітычных установах.

Літва, якая большасць сваёй гісторыі пражыла з беларускім народам, павінна падаць беларусам руку помачы ў іхным цяперашнім змаганні. У вольнай Беларусі Літва, як і ў гістарычнай мінуўшчыне, будзе мець прыязную дзяржаву, з якой лучаць нас і гісторыя, і эканоміка, і аднастайны сялянскі склад жыхарства.

Дык няхай жыве незалежная сялянская дэмакратычная Беларусь, няхай жыве брацкае збліжэнне беларускага і літоўскага народаў.

Скінуць з сябе ўсякі хамут, усякае ярмо, усякую няволю, стацца вольным і незалежным, вось павінна быць імкненне кожнага беларуса.

Быць вольным — прыроднае й людзкае права кожнага чалавека і кожнага народа. За гэтае права быць вольным змагаецца не адзін беларускі народ: многа народаў яшчэ знаходзяцца ў такім жа палажэнні, як беларусы, і змагаюцца за сваю волю і долю, за права быць гаспадарамі ў сваёй зямлі. Слава змагаром за лепшую, вольную будучыну сваіх народаў. Чэсць усім, хто змагаецца супроць няпраўды і няволі.

Беларуска-Літоўскае таварыства бярэ на сябе цяжкае заданне прыйсці ў помач паняволенаму беларускаму народу шуканнем шляхоў да выхаду з гэтай няволі, у якой ён сягоння знаходзіцца.

Беларуска-Літоўскае таварыства стаўляе сабе мэтай працаваць дзеля адбудавання незалежнай Крывіцкай (Беларускай) дзяржавы ў яе этнаграфічных межах.

Беларуска-Літоўскае таварыства будзе гуртаваць каля сябе ўсіх тых беларусаў і літвіноў, якія стаяць за поўную незалежнасць гэтых абодвух народаў і іх узаемнае згоднае і прыязнае сужывецтва.

Беларуска-Літоўскае таварыства будзе выступаць усюды, дзе акажацца патрэба, у абарону свабоды і незалежнасці гэтых двох народаў супроць усякіх іх крыўднікаў.

Няхай жыве незалежная Беларусь у яе этнаграфічных межах.

Няхай жыве незалежная Літва ў яе этнаграфічных межах.

Няхай жыве брацкая еднасць Беларускага і Літоўскага Народаў.

***1924 г. Жэнэва***



# ПРОДКІ ШМАТЛІКІХ БЕЛАРУСАЎ БЫЛІ ЛІТВІНАМІ

*(40 фактаў з першакрыніц)*

**19.** В 1405 - 1464 г. живший папа Пий Эней Сильвий Пиколомини, опираясь на сообщение Яронима из Праги, в книге „Historia de Europa“ о литвинах говорит: „Язык этого народа славянский… Одни славяне, как долматы, кроаты, коринты и поляки держатся Римской церкви, а другие, как болгары, русские и многие литвинов, придерживаются греческих ошибок."; Славянской называл «речь литовского народа» в 1464 году римский папа, писатель и гуманист Эней Сильвий Пикколомини. Такие европейские ученые, как Гертман Шедель во «Всемирной хронике» (1493 г.), директор Нюрнбергской гимназии Ян Коклес Норик в «Декастихоне» (1511 г.), Ян Богемский в работе «Обычаи всех народов» (1538 г.), писали, что в Литве используется славянский язык.

**20.** Русская летопись перечисляет «литовских» князей, погибших в битве на Ворскле 12 августа 1399 года: «А се имена убитыхъ князей Литовскихъ: князь великий Андрей Олгердович Полотцкий, князь велики Дмитрей Олгердович Брянский, […] князь Иванъ Дмитриевич Киндырь, князь Андрей Дмитреевичъ, […] князь Иванъ Евлашковичъ, […] князь Левъ Кориадович, князь Михайло Васильевич, да братъ его князь Семенъ Васильевичь, князь Михайло Подберезский, да братъ его Александръ, князь Федоръ Патрикеевичь Рыльский, князь Андрей Дрютский, князь Монтъ Толунтович, князь Иванъ Юрьевич Бельский…».

***11 студзеня 1862 г. — выйшла першая нелегальная беларуская газэта «Мужыцкая праўда».***

*Першая рэвалюцыйна-дэмакратычная газэта ў Беларусі, якая выдавалася Кастусём Каліноўскім зь ліпеня 1862 году па чэрвень 1863 году. Усяго было выдадзена 7 нумароў, кожны зь якіх пачынаўся са звароту да моладзі: «Dzieciuki!», а зачыняўся подпісам «Jaśko haspadar z pad Wilni» і коштам: «Kasztuje hroszy 5» (акрамя №6, які каштаваў 6 грашоў).*



N 1.

MUŻYCKAJA PRAUDA.

Dziecinki!

Minuło uże toje. kali zdawało sia usim. szto mużyckaja ruka zdasce tolko da sachi.—ciepier nastau taki czas. szto my sami możem pisaci, i to pisaci takuju praudu sprawiedliwu jak Boh na niebi. O. zahremić nasza prauda i jak małanka pierelecić pa swieci! Niechaj paznajuć szto my możem nie tolko karmić swaim chlebom. no jeszcze i uczyć swajej mużyckoj praudy.

Pytali i pytajuć usie. szto czuwaci na swieci. chto nam biedym mużykam dašć wolnošć? No praudu skazauszy mało chto chocze skazaci tak jak sumlenie każe—pa sprawiedliwości. My mużyki. braty waszyje. my wam budziem hawaryć cełuju praudu. tolko słuchajcie nas!

Maskali, czynouniki i mnoho panou. budeć pierepyniać pismo nasze da was; no najduć sia ludzie i z mużykou razumniejszyje i z panskaho rodu i z miasteczkowych. szto chocząć waszej swabody. waszaho szczaścia.—jony to wam sami heto pismo dawaci buduć. kab wy znali chto wasz pryjaciel. a chto wasz woroch.

Sześć let uże minuło jak pačkali hawaryć a swabodzie mużyckoj. Hawaryli, tałkawali i pisali mnoho. a niczoho nie zrabili. A hety manifest szto Car z Senatom i z panami dla nas napisau. to taki durny. szto czort wiedaje da czeho jon padobny.—nijakoj u niom niema praudy. niema z jeho dla nas nijakoj karyści. Parabili Kancelaryi. zrabili sud, jakby heto nie usio rouno brać u sraku czy z sudom, czy bez suda. Parabili Pisarou, Pasredni-



# Дзеці «ворагаў народа»

***Іх бацькі стваралі маладую беларускую дзяржаву. Загінулі падчас масавых рэпрэсій. А што здарылася з іх дзецьмі?***

Аб гэтым карэспандэнту «БН» апавядае Валянціна Галадзед, дачка Старшыні Савета Народных Камісараў БССР.

Аляксандр Чарвякоў, Мікалай Галадзед, Дзмітрый Жылуновіч (Цішка Гартны). Яны разам кіравалі дзяржавай, сябравалі. А потым настаў сумнавядомы 1937-ы… Валянціна Мікалаеўна (а ёй ужо споўнілася 88 гадоў) міжволі змахвае слязу. Успаміны цяжкія. Яна — адзіная жывая сведка тых трагічных часоў. Былая настаўніца, яна і зараз цудоўны суразмоўца. Чалавек з характарам. Ведае цану жыццю. Доўгія гады маўчала. З-за перасцярогі. За сябе і блізкіх. Бо шмат часу жыла з кляймом — дзіця «ворага народа». Гэты ж цяжар неслі і астатнія дзеці рэвалюцыйных дзеячаў. Але настаў час, каб новае пакаленне даведалася хоць кропельку аб тагачасным кругавароце. Мы едзем з Валянцінай Мікалаеўнай у пасёлак Свіслач, што ў Пухавіцкім раёне. Мясцовая школа носіць імя Аляксандра Чарвякова, былога Старшыні Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР. Тут жа адкрыты і гістарычны музей у гонар славутага земляка — Чарвякоў нарадзіўся ў суседняй вёсцы Дукора. Валянціне Мікалаеўне ёсць пра што расказаць. Разам з вучнямі паслухаем яе. — Працавалі разам і сябравалі не толькі нашы бацькі, але і мы, іх дзеці — Зося Чарвякова, Галя Жылуновіч і я. Нас парадніў лёс, вялікае шчасце і вялікае гора.

Зося

Яна была амаль дарослай, вучылася ў Маскве, у Інстытуце імя Баўмана. Прыехала на канікулы ў Мінск, якраз напачатку лета 1937 года. Тады ж праходзіў чарговы з’езд КП(б)Б. Аляксандр Рыгоравіч вярнуўся з пасяджэння, і ўсе хатнія адчулі: штосьці здарылася.

— Ведайце, што б са мной ні здарылася, я заўсёды жыў і працаваў сумленна, — папярэдзіў роспыты Чарвякоў.

Увечары іх кватэру запоўнілі людзі ў зялёных фуражках…

Ганне Іванаўне, маці Зосі, паведамілі:
— Ваш муж застрэліўся ў перапынку паміж пасяджэннямі з’езда.
Ён быў абвінавачаны ў здрадніцтве і двурушніцтве. Прымаючы страшнае рашэнне, напісаў перадсмяротнае пісьмо: «Пакідаю жыццё з вераю ў партыю і Сталіна».
У інстытуце ад Зосі патрабавалі, каб яна адраклася ад бацькі. Ціхая і мужная дзяўчына адмовілася. Яе тут жа выключылі з інстытута і камсамола. Забралі пашпарт і з «белым білетам» выслалі ў адміністрацыйную ссылку, у Яраслаўль.
Мінула некалькі тыдняў. Маці, Ганну Іванаўну, арыштавалі ў Маскве. Дачка ажно восем гадоў не ведала, дзе яна, што з ёю, ці жывая ўвогуле. І толькі ў 1945 годзе тая прыехала ў Яраслаўль. Дачка ледзь пазнала некалі гордую, велічную і прыгожую жанчыну. Змарнелая, кволая, у залатанай ватоўцы і хустцы.
У 1950 годзе, калі, здавалася, усе пакуты і вайна ў мінулым, хтосьці дзесьці ўспомніў: а дзеці «ворагаў народа» яшчэ жывуць? Зося замест пашпарта атрымала «белы білет» і накірунак — далёкі Казахстан, неабжыты пасёлак. Маці была на волі, але не магла пакінуць дачку сам-насам з чарговымі выпрабаваннямі. Праўда, хутка так занядужыла, што яе паралізавала. І цяпер ужо Зося ахінула яе сваёй цеплынёй. Да апошніх дзён. Пакуль не прыняла цудоўнага чалавека зямля кустанайская.
Праз пятнаццаць гадоў з сынам Аляксандрам вярнулася ў Мінск. Пайшла на прыём да Машэрава. Пётр Міронавіч доўга распытваў пра бацьку, лёс сям’і. Расчуліўся. Паабяцаў падтрымку. Даў каманду падначаленым устанавіць помнік на могілках па вуліцы Даўгабродскай у Мінску, варты заслуг і пашаны Чарвякова.
Нарадзіўся 8 сакавіка 1892 года ў вёсцы Дукора Ігуменскага павета (тэрыторыя сучаснага Пухавіцкага раёна). Член КПСС з мая 1917 года. Скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут (1915). Удзельнічаў у рэвалюцыйных гуртках, у беларускіх бежанскіх арганізацыях у Расіі. 1 студзеня 1919 г. у ліку 5 членаў Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада БССР у Смаленску падпісаў Маніфест аб абвяшчэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.
У 1920—24 гг. — Старшыня ЦВК БССР і СНК БССР, у 1924—37 гг. — Старшыня ЦВК БССР, адзін са старшынь ЦВК СССР. Удзельнічаў у падрыхтоўцы ўтварэння Саюза ССР, у распрацоўцы Канстытуцый СССР і БССР.
Паводле афіцыйнай версіі — застрэліўся «на сямейнай глебе» ў перапынку чарговага з’езда КП(б)Б у 1937 годзе.
— Пакінула гэты свет мая сяброўка дзяцінства і юнацтва. Смуткую. Адна радасць: у сталіцы жыве зараз нашчадак былога кіраўніка дзяржавы, цёзка знакамітага дзеда — Аляксандр Рыгоравіч Чарвякоў. Два гады таму ў сям’і адбылася значная падзея — нарадзілася прапраўнучка стваральніка беларускай дзяржавы. З імі, пакуль жыву, і падтрымліваю сувязь.



Галіна
Памерла ўжо і трэцяя сяброўка, Галіна Жылуновіч, дачка не менш знакамітага чалавека — Цішкі Гартнага. Пісьменніка і першага Старшыні Савецкага ўрада, аўтара маніфеста, які абвясціў беларусам новае жыццё і долю.
Жылуновіч Зміцер Фёдаравіч. Нарадзіўся ў Капылі. З сялян. З першага студзеня да 3.2.1919 г. узначальваў Часовы ўрад Савецкай Беларусі. Пасля быў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь», часопіса «Полымя», дырэктарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР. У гісторыю беларускай літаратуры ўвайшоў як паэт, празаік, драматург, публіцыст і крытык.
Махавік рэпрэсій загубіў яго першым з трох кіраўнікоў, яшчэ ў 1936 годзе. Галіна з маці Надзеяй Сцяпанаўнай пасля турэмнага зняволення адбывалі ссылку на Урале і ў Ленінградскай вобласці. У вайну дачка «ворага народа» скончыла курсы медсясцёр. Працавала і завочна вучылася ў педагагічным інстытуце.

Алега, свайго малодшага брата, які добраахвотнікам пайшоў на фронт, страціла пад Ленінградам. Сама, хворая, толькі ў 1946 годзе вярнулася ў Беларусь. Каб не Якуб Колас, то невядома, ці змагла б увогуле доўга пражыць. Падтрымаў ён «ворагаў» шчыра і чула. Галя паказвала пісьмо, якое берагла і якім вельмі даражыла. Якуб Колас звяртаўся з просьбай да прэзідэнта Акадэміі навук БССР, каб той залічыў у штат Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук. Там яна і працавала ўвесь адведзены лёсам час.

Калі не стала Галіны Дзмітрыеўны, гэтай маленькай, нават у сталыя гады падобнай на хлапчука-падлетка жанчыны, абарваўся прамы род Жылуновічаў. Няма ў Цішкі Гартнага ні ўнукаў, ні праўнукаў: Галя была адзінокай.



Але застаўся іншы след яго жыцця і дзейнасці, часцінка ягонай душы і думак, развагі над рэчаіснасцю — літаратурныя творы, над выданнем якіх шмат гадоў працавала дачка, кандыдат філалагічных навук, навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР.

Валянціна

Ведаеце, што крыўдна: чалавечы век кароткі, а ягоныя справы, нават самыя адметныя, велічныя, могуць адначасна быць перакрэсленымі. У адной высокай дзяржаўнай установе, куды мая мама звярнулася пасля ссылкі, чыноўнік ускінуў здзіўлены позірк:

— Галадзед? Гэта партызан?

А тады не прайшло яшчэ і дваццаці гадоў, як Мікалай Галадзед, якого ведаў кожны беларус, быў знішчаны рэпрэсіўнай сталінскай машынай. Вось і хочацца, пакуль жыву, штосьці расказаць пакаленню, якое ўжо не тое што рэвалюцыю, але і ваеннае ліхалецце ведае па кніжках і кіно. І гучна заявіць: Мікалай Мацвеевіч Галадзед — Старшыня Савета Народных Камісараў Беларускай ССР з 1927 па 1937 гады!

Нарадзіўся ў вёсцы Стары Крывец Навазыбкаўскага павета. У сям'і беларускага селяніна. З маленства парабкаваў. Закончыў рабфак Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. У 1917 вёў рэвалюцыйную прапаганду ў салдацкіх камітэтах. З 1921 па 1924 гг. — старшыня выканкама Савета г. Горкі (у той час Гомельскай губерні), старшыня тройкі па барацьбе з бандытызмам. У 1925—1927 гг. — сакратар ЦК КП(б) Беларусі. Потым 10 год запар да самага арышту і трагічнай смерці (паводле афіцыйнай версіі, скончыў жыццё самагубствам — выкінуўся з турэмнага акна) быў Старшынёй Савета Народных Камісараў Беларускай ССР.

Хтосьці ўпікае, быццам ён змаладушнічаў і пакончыў жыццё самагубствам. Ніколі не паверу ў гэта! Ён быў мужны чалавек. Нават да Сталіна паехаў, каб абараніць свайго таварыша па партыі Убарэвіча, які трапіў у апалу. Сталін выслухаў, паабяцаў разабрацца, а самога забраць на працу ў Маскву. Акрылены і радасны вярнуўся бацька дамоў, а праз нейкі час да нас прыйшоў начальнік НКУС Берман. Мама, нічога не падазраючы, пайшла на кухню ставіць чайнік. А «госць» прад'явіў ордэр № 8. Арышт. Вобыск. А як папа загінуў, дакладна і сёння не ведаю. Толькі доктар мне расказваў, што, калі яго ў турму запрасілі засведчыць смерць Галадзеда, той яшчэ быў жывы. Аказаць дапамогу не дазволілі...

А потым і нам, дзецям «ворагаў народа», нічога не дазвалялі. Маму адразу арыштавалі. Утрымлівалі ў адзіночнай камеры. Потым ссылка.

Шмат несправядлівасці перацярпела і я. Але, ведаеце, калі памёр Сталін, я міжволі заплакала. Мама дзіўна так паглядзела на мяне:

— Я свае слёзы выплакала ў турме, — і выйшла ў другі пакой.
Мяне выслалі ў Яраслаўль. Ужо з Масквы. Качагар данёс, што я знайшла прытулак на кватэры ў роднай цёткі Зіны. Прыйшлі дзядзькі ў пагонах, патрабавалі пашпарт. Няма. Даюць прадпісанне: за тры дні пакінуць сталіцу. Выслалі, куды і Зосю Чарвякову. Скончыла дзесяцігодку.
Дабівалася дазволу паступіць вучыцца. І пашпарт атрымала. Праўда, з паметкай: «невыязная». Выдатніцай была. На 5 рублёў большую стыпендыю атрымлівала. Адзенне і абутак зношваліся. Эканоміла на харчаванні.
У вайну на працоўным фронце была. Дзяжурыла ў шпіталі, на даху інстытута разам з дзяўчатамі-зенітчыцамі. Але, бадай, галоўным абавязкам было стэнаграфіраваць тэкст з «чорных талерак» — радыёкропак. Тыражыраваць. Людзі вельмі чакалі навін з фронту.
У 1946 годзе з ссылкі вярнулася мама. Але рэпрэсіўная машына працавала па-ранейшаму. Атрымліваю чарговы загад: пакінуць Яраслаўль, пераехаць у Кустанай. Муж мой, Фёдар Белякоў, франтавік, удзельнік Параду Перамогі, адстояў. У Маскве дабіўся, каб мяне пакінулі ў спакоі. Да таго ж грамадскасць горада заступілася. Я ўжо настаўніцай працавала, мела добрую рэпутацыю. Забралі толькі пашпарт, далі «белы білет». О, як гэта было ганебна і балюча! Ды і хадзіць у «шэры дом» кожныя дзесяць дзён адзначацца.
Калі памёр мой каханы муж, пахавала яго і зазбіралася на радзіму. 1975 год. Мінск. Я ў дачкі. Уладкавалася на працу ў школу. Але ніхто доўга і не ведаў, што я дачка партыйнага дзеяча Галадзеда. Нацярпеўшыся здзекаў, баялася. Не за сябе. За дачку і ўнукаў.
Дзякуй Богу, час расставіў усё па сваіх месцах.
**Артыкул:** *Уладзіміра Стрэльскага*

**11 студзеня 1996 г.— адкрыццё памятнай шыльды Вацлаву Ластоўскаму ў Вільні.**



# Карты, танцы і другія забавы студэнтаў Полацкай акадэміі

Важнай крыніцай на тэму побыту даўнейшага беларускага студэнцтва, у тым ліку навучэнцаў Полацкай езуіцкай акадэміі, могуць стаць мемуары выхаванца Полацкай езуіцкай акадэміі Эдварда Тамаша Масальскага (1799—1879), вядомага пісьменніка, аўтара «першага айчыннага сацыяльнага рамана» «Пан Падстоліч».



Полацкая езуіцкая акадэмія (1812—1820) разам з Горы-Горацкім земляробчым інстытутам (1848—1864) — найстарэйшыя ВНУ Беларусі. На жаль, захавалася мала сведчанняў аб побыце даўнейшага беларускага студэнцтва, у тым ліку навучэнцаў Полацкай езуіцкай акадэміі. Важнай крыніцай на гэтую тэму могуць стаць мемуары [1] выхаванца Полацкай езуіцкай акадэміі Эдварда Тамаша Масальскага (1799—1879), вядомага пісьменніка, аўтара «першага айчыннага сацыяльнага рамана» «Пан Падстоліч» (у пяці тамах на польскай мове ў 1831—1833, у чатырох тамах у перакладзе на рускую мову — 1833—1834).
Э. Масальскі вучыўся ў Полацку з 1816 г. і да закрыцця Акадэміі ў 1820-м. Разам з ім тут вычыліся і два яго родныя браты — малодшыя Кароль і Юзаф. Апошні вядомы сучасным гісторыкам літаратуры як аўтар паэтычнага зборніка «Паэзія». Пасля закрыцця полацкай alma mater Э. Масальскі накіраваўся ў Віленскі універсітэт. Параўноўваючы гэтыя дзве ўстановы, аўтар мемуараў адзначаў вышэйшы

ўзровень выкладання ў Вільні, аднак падкрэсліваў, што ў Полацку існавала пазітыўная маральная атмасфера як сярод студэнтаў, так і вы¬кладчыкаў. Менавіта ў рэакцыі на дэмаралізацыю акадэмічнага асяродку Вільні Э. Масальскі бачыў прычыну стварэння філарэцка-філамацкага руху. (Масальскія ўзялі актыўны ўдзел у гэтым руху і неўзабаве трапілі пад урадавы праслед.) Э. Масальскі падкрэслівае вялікае значэнне досведу і сяброўскіх сувязяў, набытых ім у Полацку. Сярод полацкіх студэнтаў, якія ў адзін час вучыліся з аўтарам мемуараў і вызначаліся сваімі здольнасцямі, называюцца імёны Даната Жаброўскага, Канстантыя Сербіновіча, Пятра Ельяшэвіча, Гаўдэнтыя Шапялевіча і Яна Баршчэўскага.

Штодзённы побыт студэнтаў Акадэміі залежаў ад эканамічных магчымасцяў навучэнцаў. Студэнты, што валодалі дастатковымі сродкамі, каб здымаць прыватныя кватэры, мелі больш свабоды ў параўнанні са сваімі таварышамі, якія жылі ў езуіцкім канвікце — недарагім пансіёне. У ім існавалі строгія правілы ўнутранага распарадку, напрыклад, прадугледжваліся пазашкольныя заняткі, рэгламентаваўся час абуджэння і адбою, прыняцця ежы, малітваў і посту.

Ураджэнец Міншчыны Э. Масальскі належаў да адносна заможнай сям’і. У першы год свайго навучання браты Масальскія знайшлі ў Полацку кватэру і стол ва ўдавы кандытара італьянкі Машынскай, а на другі год у іх распара¬джэнні быў ужо амаль цэлы паверх вялікага дому — трохпакаёвая кватэра з вітальняй, да якой прымыкала вялікая зала для танцаў. Гэта паспрыяла таму, што апартаменты Масальскіх неўзабаве ператварыліся ў нефармальны студэнцкі клуб, заўсёднікамі якога былі каля дваццаці навучэнцаў.

Браты Масальскія пад пратэкцыяй сясцёр прэфекта ксяндза-езуіта Снарскага, непасрэднага кіраўніка навучальнага працэсу ў Акадэміі, і жонкі свайго знаёмага, наглядчыка полацкіх водных камунікацый на Дзвіне Хведара Масальскага, арганізавалі «танцавальны гурток». Ад імя шаноўнай пані Масальскай для навучання танцам былі запрошаны палачанкі, жонкі мясцовага чыноўніцтва з дочкамі, а таксама мясцовыя немкі-купчыхі. Гэтыя закансціраваныя з увагі на строгі езуіцкі кантроль балі займелі вялікую папулярнасць сярод полацкіх студэнтаў. Зрэшты, яны былі надзвычай прыстойныя і сціплыя, падчас пасту яны касаваліся ўвогуле. Пары паважна танцавалі пад фартэпіяна. На агульныя складкі ладзіўся пачастунак: звычайна ў невялікай колькасці віно, а таксама гарбата і здоба.

Былі сярод студэнтаў і заўзятыя баламуты, аматары картаў і розных іншых заганных забаваў. У Акадэмію яны хадзілі толькі для формы, шукаючы прыгод і пацехаў. Апошнія былі ў асноўным выхадцамі з тутэйшых дробнашляхецкіх сем’яў, якія традыцыйна разглядалі езуіцкае навучанне толькі як сродак набыцця свецкага лоску.

У свой вольны час студэнты бралі таксама прыватныя курсы. Э. Масальскі апісвае падобныя зборні, якія таксама па збегу акалічнасцяў адбываліся ў яго кватэры. Да Масальскіх прыходзіў агент Біблейскага Таварыства Маркс (яўрэй з брытанскім пашпартам) і даваў ахвочым з дазволу езуітаў урокі англійскай і яўрэйскай моваў.

Старанныя студэнты маглі адведваць адразу некалькі курсаў. Так, Э. Масальскі пасля атрымання патэнту на ступень кандыдата на трэцім годзе свайго навучання праслухоўваў лекцыі на матэматычным і юрыдычным аддзяленнях, працягваючы таксама студыі грэцкай і яўрэйскай моваў.

Сярод студэнтаў вылучалася некалькі груп паводле іх стаўлення да навукі. Для адных навучанне ў Акадэміі было сродкам зрабіць духоўную ці выкладчыцкую кар’еру. Яны былі згрупаваны ў асноўным на тэалагічным факультэце. Ступень доктара багаслоўя давала таксама права на чыноўніцкі ранг восьмага класа. Сюды таксама запісваліся асобы, якія хацелі займацца навукай, — як лічылася, тут былі лепшыя лектары.

Другая «партыя» — моладзь, схільная да гуманітарных дысцыплін і мастацтва. Ім больш адпавядаў факультэт свабодных навук. Падчас навучання Э. Масальскага тут былі тры аддзелы: 1) уласна «вызваленых навук» (выкладалася мастацтва рыфмавання, красамоўства, усеагульная гісторыя, гісторыя старажытнасці, малюнак, музыка і іншае); 2) філасофскі аддзел (логіка, метафізіка, дыялектыка, этыка, натуральная тэалогія разам з чыстай і практычнай матэматыкай, фізіка, хімія і натуральная гісторыя); 3) юрыдычны

аддзел (натуральнае права, кананічнае права, рымскае, краёвае цывільнае і крымінальнае права разам з судовым працэсам). На першых двух аддзелах выкладанне вялося на лаціне і вызначалася схаластычнасцю. На юрыдычным — частка прадметаў («літоўскі статут» і «судовы працэс») чыталіся па-польску, выкладчыцкі склад тут, як адзначае Э. Масальскі, быў найбольш слабы ў Акадэміі.

Пасля іспытаў першага года навучэнцы атрымлівалі ступень студэнта пэўнага факультэту і раз’язджаліся на вакацыі па дамах. Пасля іспытаў другога года паспяховыя студэнты атрымлівалі патэнт кандыдатаў абраных навук, і частка на гэтым спыняла сваю адукацыю ў езуітаў. Пасля трэцяга года здаваліся іспыты на годнасць магістра. Навуковыя ступені Полацкай акадэміі прыраўноўваліся да адпаведных ступень расійскіх універсітэтаў і давалі права на пэўныя рангі пры паступленні на чыноўніцкія пасады ў царскіх цывільных установах. Аднак у 1819 г., калі Э. Масальскі атрымаў годнасць магістра, царскім загадам гэтае палажэнне было адменена. Езуіты трапілі ў няласку. Аднак загад не агалошваўся шырока сярод чыноўніцтва, і, як сведчыць Э. Масальскі, гэта давала студэнтам шанц атрымаць усё ж належны клас на дзяржаўнай пасадзе. Гэтым паспеў скарыстацца шэраг полацкіх выпускнікоў, якія традыцыйна пасля заканчэння Акадэміі шукалі свой шанец у Пецярбурзе на царскіх цывільных пасадах. На чацвёрты год навучання заставаліся пераважна асобы, якія збіраліся звязаць свой лёс з Ордэнам і атрымаць навуковую годнасць доктара. Сярод апошніх быў і Э. Масальскі, хоць бацька і забараніў яму думаць аб духоўнай кар’еры.

На чацвёртым годзе сваёй адукацыі ў першых тыднях 1820 г. калегі абралі Э. Масальскага на пасаду прэфекта садалісаў — кшталту студэнцкіх старастаў — найлепшых навучэнцаў. Гэта лічылася надзвычай ганаровай пасадай. Першым прэфектам полацкіх садалісаў быў Сцяпан Батура, дзякуючы якому полацкі езуіцкі калегіум быў заснаваны ў 1581 г. — трэцім пасля Віленскага і Нясвіжскага. Па Батуру гэтую пасаду займалі буйныя мясцовыя чыноўнікі і выбітныя навучэнцы.

Незвычайна ўрачыстай выглядала цырымонія ганаравання прэфекта садалісаў. Прэфекта садзілі на трон у полацкім касцёле св. Стэфана. Перад ім на зэдліках сядзелі віцэ-прэфекты і асістэнты. Адзін з найлепшых навучэнцаў прамаўляў да прэфекта арацыю. Прэфект меў права раздаваць патэнты новым садалісам. Ён таксама мусіў кантраляваць непасрэдна іх паводзіны. Прэфект садалісаў перадаваў езуіцкаму кіраўніцтву спісы беднай моладзі на стыпендыю касы садалісаў, што збіралася на грошы ад продажу грамнічных свечак. Свечкі развозіліся прэфектам разам з садалісамі па дварах мясцовага дваранства, і такім чынам збіраліся неабходныя сумы для стыпендыі.

Напрыканцы зімы 1820 г. памёр генерал Ордэна езуітаў Т. Бжазоўскі, што паскорыла працэс ліквідацыі дзейнасці езуітаў на землях Расійскай імперыі. Мінула толькі некалькі дзён пасля пахавання Т. Бжазоўскага, як у вечар перад велікодным святам, калі навучэнцы звычайна раз’язджаліся па дамах, рота жандараў атачыла муры езуітаў. Днём выявілася, што губернскім царскім чыноўнікам апячатаны ўсе езуіцкія ўстановы: бібліятэкі, фізічны кабінет, музей, друкарня, фабрыка сукна, склады, каморы і рызніцы. Членам Ордэна абвясцілі загад аб іх тэрміновай высылцы за мяжу. Студэнтаў распусцілі па дамах. Пачаўся, паводле сведчання Э. Масальскага, рабунак полацкага калегіума губернскім віцебскім чыноўніцтвам, якое, выкарыстоўваючы няпэўную сітуацыю, прысвойвала аграмадныя матэрыяльныя запасы — збожжа, віно, сукно.

**Артыкул:** *Сяргея Шыдлоўскага*




***Г.Я. Змудзінскі. Праект герба БССР, 1924 г.***

# Незалежная гістарыяграфія: спроба метадалагічнага абнаўлення

Напэўна, ніхто не будзе спрачацца з тым, што беларуская гістарычная навука знаходзіцца не ў самым лепшым стане. Аўтары, што аналізуюць прычыны гэтага, звычайна спасылаюцца на «фактар адміністрацыйнага ўмяшальніцтва». Зразумела, што доля праўды ў гэтым ёсць, але ж не ўся.




*Выданне, якое абмяркоўваецца ў аглядзе: Homo historicus 2008. Гадавік антрапалагічнай гісторыі / Пад. рэд. А. Ф. Смаленчука з удзелам І. М. Дубянецкай. — Вільня: ЕГУ, 2008. — 520 с.*

Напэўна, ніхто не будзе спрачацца з тым, што беларуская гістарычная навука знаходзіцца не ў самым лепшым стане. Аўтары, што аналізуюць прычыны гэтага, звычайна спасылаюцца на «фактар адміністрацыйнага ўмяшальніцтва», які быццам бы прывёў да расколу беларускай гістарыяграфіі на два канфрантацыйныя лагеры — «прыдворных» і «незалежных» гісторыкаў. Першаму было адмоўлена ў свабодзе выбару аб'екту даследавання, а другому — у матэрыяльных рэсурсах. Зразумела, што доля праўды ў гэтым ёсць, але ж не ўся. І слушна заўважае Алесь Смалянчук у прадмове да рэцэнзаванага выдання:

Але фактычна самаізаляцыя большасці айчынных гісторыкаў ад развіцця сусветнай гуманістыкі абумоўлена не толькі намаганнямі дзяржаўных ідэолагаў. Іншай прычынай стала нежаданне вучыцца.

Менавіта гэтым нежаданнем засвойваць новую метадалогію і новы досвед арганізацыі навуковага даследавання тлумачыцца тое, што гістарычная веда ў нашай краіне па-ранейшаму прадукуецца практычна толькі ў межах неапазітывісцкай парадыгмы, толькі ў розных версіях — ці то постсавецкай, ці то «нацыянальнай». Але ж і «нацыянальная гісторыя», якая выглядала такой паспяховай і энергічнай у пачатку 1990-х, у еўрапейскай перспектыве ўжо даўно састарэла, і толькі адраджэнне незалежных дзяржаваў ва Усходняй Еўропе дало імпульс бачанню гісторыі, што засноўваецца на прынцыпах і арыенцірах, створаных яшчэ ў XIX ст. Сучасныя гісторыкі нашмат больш заклапочаныя тым, як можна пісаць транснацыянальную, рэгіянальную, еўрапейскую гісторыю, якая б пераадолела абмежаванні нацыянальных наратываў. Змяніліся і даследчыя інтарэсы — ад фактаграфічнага апісання сацыяльна-палітычнай гісторыі да вывучэння свядомасці людзей мінулага (ці, у тэрміналогіі французскіх гісторыкаў, пачынаючы са школы «Аналаў», калектыўных ментальнасцей). Змяніліся і метадалагічныя падыходы: мы назіраем экспансію ў гэтым кірунку вуснай гісторыі. Выбуховае пашырэнне дыскурсу памяці і ідэнтычнасці непазбежна закранула і сучасную гістарычную навуку і прывяло да стварэння міждысцыплінарных даследчых прастораў штудый нацыяналізму і гістарычнай памяці.

І што на гэта змагла адказаць айчынная гістарыяграфія? Намаганні пераняць новыя тэндэнцыі ў прадукаванні гістарычнай веды рабіў Генадзь Сагановіч у рэдагаваным ім «Беларускім гістарычным аглядзе», вось толькі збольшага гэтае «новае» там было прадстаўлена пераважна ў якасці перакладаў замежных прац. Зварот да новай тэматыкі (генезіс нацыяналізму, гістарычная памяць і г. д.) назіраліся ў гродзенскіх гісторыкаў, але без шырокай інстытуцыйнай падтрымкі наўрад ці выпадала чакаць значных поспехаў у гэтым кірунку. З дапамогай асобных грантаў можна

правесці даволі паспяховыя даследаванні, але змяніць сітуацыю кардынальна нельга.
Выхад гадавіка антрапалагічнай гісторыі «Homo Historicus» можна палічыць першай ластаўкай, якая дае надзею на тое, што беларуская гістарычная навука ўсё-ткі можа выйсці з крызісу і пераадолець метадалагічнае адставанне ад сучаснай заходняй гістарыяграфіі. Што нам дае падставы для такой надзеі? Нарэшце можна казаць пра інстытуцыянальнае афармленне «сучаснай» беларускай гістарычнай навукі ў форме Інстытута гістарычных даследаванняў, створанага на базе Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта ў Вільні.
Як ні дзіўна, але менавіта выгнанне ЕГУ з Беларусі прымусіла кіраўніцтва універсітэта азірнуцца ў бок нашай краіны, вынікам стала заснаванне факультэта беларусістыкі ды вышэйназванага інстытута (хоць называць ЕГУ менавіта «беларускім» універсітэтам і цяпер мала хто наважыцца). Гэты фінансавы і арганізацыйны патэнцыял і дазволіў рэдакцыі «Homo Historicus» прэтэндаваць на амбітны статус «гадавіка», што выглядае надзвычайнай прэтэнзіяй, улічваючы тое, што першы яго нумар рыхтаваўся яўна не адзін год. Будзем спадзявацца, што заяўленая перыядычнасць будзе вытрымлівацца, што дазволіць даакрэсліць традыцыю якаснага гістарычнага прадукту. І нарэшце, галоўныя спадзяванні, ускладзеныя на новы гадавік, абумоўленыя узроўнем і інавацыйнасцю матэрыялаў, з якіх складаецца яго першы выпуск.
Выданне атрымалася даволі аб'ёмным — 520 старонак, і калі будзе захоўвацца такі аб'ём штогод, то гэта трэба будзе вітаць. Крыху засмуціла мяккая вокладка, якая не дае вялікіх надзеяў на доўгае жыццё гадавіка пры актыўным чытанні. Дызайн звычайны (ці папросту ніякі) для грантавай серыі кніжак ад CASE. Добра, што ў адрозненне ад большасці кніг з гэтай серыі была праведзена старанная рэдактура.
Моўная палітыка выглядае цалкам адэкватнай — з перавагай беларускамоўных матэрыялаў, але і з паважлівым стаўленнем да рускай мовы. Паколькі шматмоўе (ці, можа, дакладней, двухмоўе?) стала сутнаснай характарыстыкай лінгвістычнай сітуацыі ў Беларусі, то і шматмоўнасць гадавіка не выклікае нараканняў. Толькі Ірына Дубянецкая друкуе артыкул пра прыроду міфа і функцыі міфалогіі на англійскай мове, што пакуль выглядае дзіўным, хоць такая практыка стала і звычайнай нават у нашых суседзяў.
Альманах пачынае прадмова рэдактара Алеся Смаленчука, у якой тлумачыцца неабходнасць звароту да антрапалагічнай гісторыі ды пазначаюцца асноўныя метадалагічныя прынцыпы і сферы інтарэсаў новага выдання. Рэдактар канспектыўна апісвае канцэптуальныя змены, адбытыя ў гістарычнай навуцы за мінулае стагоддзе. У яго інтэрпрэтацыі яны апісваюцца як зварот вучоных да чалавека з яго думкамі і пачуццямі, да вывучэння свядомасці і матывацыі паводзін. У такой перспектыве стан беларускай гістарычнай навукі цяжка лічыць адпаведным гэтай новай парадыгме даследчых інтарэсаў і сучаснай метадалогіі. Ліквідаваць гэты прабел і заклікаш гадавік антрапалагічнай гісторыі «Homo Historicus», які плануе сабраць пад сваім крылом гісторыкаў, што займаюцца вуснай гісторыяй, гісторыяй штодзённасці, біяграфістыкай, мікрагісторыяй і гістарычнай памяццю.
Яшчэ адзін прынцыповы пасыл з рэдактарскай прадмовы — гэта імкненне разбурыць жорсткія дысцыплінарныя межы пры вывучэнні палітычнай, культурнай і сацыяльнай гісторыі. На жаль, гэты намер так і застаўся практычна нядзейсненым у першым выпуску гадавіка, які адзначаны яўнай перавагай гістарыцызму.
Разгледзім падрабязней, якім чынам гэтыя два тэарэтычныя прынцыпы — антрапалагічны «пераварот» і заклік да міждысцыплінарных даследаванняў — былі рэалізаваныя на практыцы...
**Артыкул:** *Аляксея Ластоўскага*



**11 студзеня 1386 г. — пасольства польскай шляхты падпісала ў замку ў Ваўкавыску ўмову з Ягайлам, згодна з якой ён атрымліваў польскі трон ды жаніўся з Ядвігай.**

# Манастыр на Трайчанах

*Гісторыя слуцкага манастыра на Трайчанах непарыўна звязана з гісторыяй горада і з гісторыяй беларускай Праваслаўнай царквы.*




Слуцк з даўніх часоў і амаль да пачатку XX стагоддзя меў выразны падзел на ўласна горад (месца) і прадмесці: Востраў і Трайчаны. Напрыканцы XVIII стагоддзя дадалося яшчэ адно прадмесце — Выгода. Трайчаны туліліся да заходняй ускраіны Слуцка. Цяпер гэта жылы раён уздоўж вуліцы Віленскай ад Чортавага мосціка да медыцынскага каледжа. Назва прадмесця ўтварылася ад Троіцкага манастыра, што знаходзіўся тут. А пасля таго, як у 1879 годзе Троіцкі манастыр перавялі ў Мінск, а ў вызваленых будынках размясціўся прыбыўшы з Грозава Іаана-Багаслоўскі манастыр (у сувязі з чым павінна была б змяніцца і назва слуцкага манастыра), у горадзе пачалі карыстацца кампрамісным варыянтам: называлі па найменню прадмесця — Трайчанскім. Таму цяпер у літаратуры можам сустрэць старажытны слуцкі мужчынскі манастыр і пад адной, і пад другой назвай.

Калі быў заснаваны Троіцкі манастыр, невядома. У нясвіжскім архіве Радзівілаў некалі знаходзіўся дакумент, у якім прыводзілася, што гэты манастыр быў абрабаваны ў 1205 годзе падчас вайны. З гэтага можна зрабіць выснову, што з'явіцца ён мог у XII стагоддзі. Спачатку размяшчаўся ў пэўнай адлегласці ад горада, ніжэй па цячэнню ракі Случ, на правым яе беразе. Паўз манастыр праходзіла дарога. Калі побач з ім вырасла прадмесце, адрэзак дарогі да горада стаў вуліцай Трайчанскай.

Манастыр быў адным з галоўных цэнтраў духоўнага і культурнага жыцця краю. Яго значэнне ўзрасло пасля прыняцця ў 1596 годзе царкоўнай Уніі. Тады праваслаўная Кіеўская мітраполія, у склад якой уваходзіла Случчына, спыніла сваё існаванне. Праваслаўныя цэрквы Случчыны Уніі не падтрымалі. Захоўваючы падпарадкаванне Канстанцінопальскаму патрыярху, кіраўніцтва Троіцкага манастыра ў перыяд 1596—1620 гг. фактычна самастойна ладзіла праваслаўнае жыццё краю. Акрамя прыходскіх храмаў, архімандрыту Троіцкага манастыра і заснаванай пры ім кансісторыі падпарадкоўваліся больш дробныя манастыры Случчыны: Слуцкія Ільінскі і Прэабражэнскі, Мікалаеўскі і Іаана-Багаслоўскі ў Грозаве, Морацкі Успенскі і Старчыцкі Петрапаўлаўскі. Калі ў 1620 годзе праваслаўная Кіеўская мітраполія была адноўлена, Слуцкія архімандрыты сталі намеснікамі Кіеўскага мітрапаліта.

У манастыры мелася вялікая бібліятэка. Таксама пры ім дзейнічаў скрыпторый, а зробленымі тут рукапіснымі кнігамі забяспечваліся цэрквы Случчыны. Акрамя перапісчыкаў, над кнігамі працавалі мастакі, якія ўпрыгожвалі іх ілюстрацыямі, а таксама ювеліры, якія рабілі металічныя абклады. Працавалі таксама майстры-алавяннікі. Яны адлівалі свечнікі, посуд, іншыя неабходныя рэчы. Царкоўныя заказы спрыялі развіццю залаташвейнага і ткацкага мастацтва, іканапісу, кавальства, ліцця званоў.

Архімандрыты Слуцкага Троіцкага манастыра Феадосій Васілевіч (з 1678 года) і Серапіён Палхоўскі (з пачатку XVIII стагоддзя), захоўваючы сваю пасаду ў Слуцку, станавіліся

епіскапамі Беларускімі і Магілёўскімі. З канца XVIII стагоддзя па 1840 год пры манастыры дзейнічала Мінская праваслаўная духоўная семінарыя. Тады ж пры ім была заснавана епіскапская кафедра. У перыяд з 1772 па 1793 гг. манастыр быў самым буйным праваслаўным цэнтрам Рэчы Паспалітай.

Комплекс манастырскіх пабудоў, якія ўзводзіліся з дрэва, неаднойчы мяняў выгляд. Галоўнай святыняй быў Троіцкі сабор. Разам з іншай манастырскай забудовай ён не раз цярпеў ад ворагаў, у тым ліку ад татарскіх нападаў пачатку XVI стагоддзя. У 1505 годзе па фундацыі княгіні Анастасіі Алелькавіч замест старога драўлянага з'явіўся новы мураваны храм. Узводзіўся ён у памяць аб удалай абароне горада і перамогі над перакопскімі татарамі. Такім чынам, манастырскі Троіцкі сабор мы можам разглядаць як першы ў нашым краі помнік абаронцам Айчыны. Ёсць падстава гаварыць, што ў агульных рысах узведзены княгіняй Анастасіяй храм быў падобны на Успенскі сабор Кіева-Пячэрскай лаўры, за сорак гадоў да таго адноўлены яе сваяком князем Сімяонам Аляксандравічам Алелькавічам. Акрамя галоўнага прастола, у храме таксама меліся і бакавыя, асвечаныя ў гонар святога Дзімітрыя і святых Глеба і Барыса. Тэрыторыю бараніла драўляная агароджа. Уваход быў з боку вуліцы Трайчанскай праз драўляную браму. Па баках браму фланкіравалі дзве драўляныя вежы, паміж імі ўзвышалася надбрамная царква святога Мікіты. На працягу XVIII і XIX стагоддзяў ім на змену прыйшлі мураваная сцяна і мураваная брама з надбрамнай царквой Іаана-Багаслова. Акрамя сабора, мелася цёплая зімовая царква, гаспадарчыя пабудовы. На беразе ракі размяшчаліся могілкі. У манастыры былі пахаванні і простых інакаў, і іерархаў, якія ўвайшлі ў гісторыю праваслаўнай царквы, сярод якіх — архімандрыт Міхаіл Казачынскі, вядомы як царкоўны дзеяч, беларускі і ўкраінскі пісьменнік, пачынальнік сербскай драматургіі. Хавалі тут і знакамітых людзей горада і краю. У іх ліку адзін з апошніх князёў Алелькавічаў — Аляксандр Юр’евіч, а таксама першы губернатар далучаных да Расіі земляў Рэчы Паспалітай рускі генерал Міхаіл Мікітавіч Крачэтнікаў. У храмавым склепе стаяла труна княгіні Марыі Лупулі-Радзівіл, жонкі вялікага гетмана ВКЛ Януша Радзівіла, і іх сына.

Троіцкі сабор атрымаў пашкоджанні падчас войнаў XVII і XVIII стагоддзяў. Канчатковая адбудова, якая прыдала храму барочны характар, прыходзіцца на 1785 -1789 гады. Ён меў у плане форму крыжа. Галоўны фасад фланкіравалі дзве чацверыковыя трох'ярусныя вежы.



На левай меўся гадзіннік з курантамі, правая служыла званіцай. Для выгляду храма было характэрным спалучэнне даволі масіўных і выразных асноўных частак аб'ёмаў, верагодна, узыходзячых да XVI-XVII стст., з вытанчанымі барочнымі завяршэннямі вежаў і купала, крывалінейнымі франтонамі галоўнага і бакавых фасадаў. Цяпер правы прыдзел быў асвечаны ў гонар святой пакутніцы Кацярыны, левы — у гонар святога благавернага князя Аляксандра Неўскага.

На старой драўлянай званіцы на пачатку XIX стагоддзя вісела восем званоў. Большы з іх, адліты мясцовымі майстрамі ў 1799 годзе замест разбітага ў сярэдзіне XVII стагоддзя вялікага звона, меў 207 пудоў і 10 фунтаў вагі. Падчас пераводу ў Мінск Троіцкага манастыра туды быў адпраўлены і гэты звон. Па дарозе ў Мінск ён зваліўся з воза і трэснуў. У Мінску быў пераліты і ўсталяваны на званіцы кафедральнага Петрапаўлаўскага сабора.

У 1865-67-я гады ў стылі позняга класіцызму ўзведзены мураваны корпус, дзе размясціліся пакоі архімандрыта, келлі манахаў і цёплая царква Благавешчання, куды перанеслі мошчы блажэннай княгіні Сафіі Слуцкай.
Пасля рэвалюцыі і ўсталявання Савецкай улады на манастырскай тэрыторыі пачаў фарміравацца першы вайсковы гарадок. Манастыр закрылі, яго жылы корпус ператварыўся ў казарму, сабор жа дзейнічаў да 1930 года.
У цяперашніх даведніках можна знайсці, што манастырскі комплекс разбураны ў Вялікую Айчынную вайну. Аднак аўтару гэтых радкоў прыходзілася сустракацца з відавочцамі, якія сведчылі, што адбылося гэта ўжо пасля вайны. У гады акупацыі мясцовымі жыхарамі сабор быў падрыхтаваны да адкрыцця, але адкрыць яго не паспелі. Падчас вызвалення Савецкай арміяй горада ад акупантаў на храмавай званіцы знаходзіліся нямецкія назіральнікі-наводчыкі, і па іх быў скіраваны агонь савецкіх гармат. Пасля вызвалення горада храм стаяў без вярхоў. Па заканчэнні вайны тут зноў размясціўся вайсковы гарадок, і ўжо тады храм быў знішчаны канчаткова. Манастырскі корпус выкарыстоўваўся пад казармы, але ў 1960-я гады быў разбураны і ён.
P.S. У наш час пакрысе адкрываюцца многія невядомыя раней старонкі нашай гісторыі. Аднаўляюцца страчаныя помнікі. Рэстаўрыруюцца і рэканструююцца замкі. У Мінску і Магілёве адноўлены будынкі гарадскіх ратуш, У Полацку — помнік 1812 года, у Віцебску паўсталі з небыцця Благавешчанская і Уваскрэсенкая цэрквы, Успенскі сабор. Хочацца спадзявацца, што ў нейкі час чарга прыйдзе і да нашага старажытнага Слуцка. І першым адноўленым помнікам, несумненна, павінен стаць Троіцкі сабор — храм-воін, помнік абаронцам краю, сведка гісторыі нашага горада.
**Артыкул:** *Ігара Ціткоўскага*



# Дэмакратыя, як адна з прычын знікнення Рэчы Паспалітай

У сярэдзіне 17 ст. Рэч Паспалітая ўступіла ў паласу жорсткага палітычнага крызісу, звязанага з паўстаннем украінскага народа, шведскім уварваннем і зацяжной вайной з Маскоўскай дзяржавай. У 1667 годзе ў вёсцы Андрусава блізу Смаленска было падпісанае перамір'е, якое спыніла 13-гадовую вайну.




Вайна 1654-1667 г. з Масквой фактычна паклала канец Рэчы Паспалітай як вялікай еўрапейскай дзяржаве. Паўночная вайна 1700-1721 гг. якую вёў Пётр I са Швецыяй на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, канчаткова падарвала Рэспубліку Абодвух Народаў і кінула краіну ў бясконцыя палітычныя і эканамічныя крызісы, і як вынік, усё большае нарастанне ўплыву Расіі на ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай.
Галоўная бяда заключалася ў тым, што зараз Рэч Паспалітую з усіх бакоў атачалі магутныя суседнія дзяржавы: Аўстрыя, Саксонія, Расія, Швецыя, Турцыя.
Пасля Паўночнай вайны ў Еўропе мацнелі цэнтралізаваныя абсалютныя манархіі. У Рэчы Паспалітай, наадварот, узмацнілася ўлада магнацкіх колаў, пашырылася шляхецкая анархія. Магнаты Рэчы Паспалітай мелі свае прыватныя арміі, якія былі ўзброены лепш, чым войскі дзяржавы. Шляхта патрапіла ў залежнасць ад магнатаў. На непаслухмяных шляхцічаў магнаты рабілі наезды, рабавалі іх.
Паводле заканадаўчых актам Рэч Паспалітая з'яўлялася федэрацыяй Каралеўства Польскага і Вялікага княства Літоўскага. Кіраўніком рэспублікі быў пажыццёва абраны манарх, які

з'яўляўся адначасова каралём Польшчы і вялікім князем Літвы. Па форме праўлення РП ўяўляла сабой шляхецкую дэмакратыю, якая складала ў сабе наяўнасць у шляхты шырокіх правоў у кіраванні краінай. Напрыклад, прадстаўнікі шляхты маглі арганізоўваць уласныя ваенныя атрады і весці ўласныя лакальныя войны. Шляхта валодала велізарнымі правамі, яна мела сваю ўласнасць; мела судовую ўладу над сялянамі; па Кошыцкім прывілеі 1374 вызвалялася ад усіх дзяржаўных павіннасцяў, за выключэннем плацяжу пазямельнага падатку; мела права займаць пасады касьцялянаў, ваяводаў, суддзяў; мела свае радавыя гербы.

У шляхты меўся дух саслоўнай салідарнасці і адстойванне сваіх інтарэсаў, якія часта знаходзіліся ў супярэчнасці з інтарэсамі іншых саслоўяў ці нават інтарэсамі самога караля. Формай арганізацыі шляхты быў сеймік.

Рэч Паспалітая была адзіным дэмакратычным дзяржавай свайго часу сярод усёй Еўропы, не кажучы ўжо пра Масковію (у РП 3 траўня 1791 года была прынятая першая ў Еўропе канстытуцыя). Гэтую унікальную для свайго часу сістэму можна лічыць перадумовай сучаснай канцэпцыі дэмакратыі, канстытуцыйнай дэмакратыі і федэрацыі. Манархія астатніх еўрапейскіх дзяржаў не асабліва была задаволеная, што ў цэнтры Еўропы ад мора да мора існуе падобная дзяржава. Дух дэмакратычных вольнасцяў ў Рэчы Паспалітай мог пахіснуць еўрапейскую манархію.

Каралёў Рэчы Паспалітай абіралі магнаты і шляхта, трон ня перадаваўся па спадчыне (як гэта было ў Еўропе і Расіі). Каралеўская ўлада была абмежаваная сеймам і сенатам. У той жа час у сойме рашэнні па ўсіх важных пытаннях ўступалі ў сілу толькі ў тым выпадку, калі іх прымалі аднагалосна. Варта было ўсяго толькі аднаму дэпутату (якога маглі падкупіць замежныя дыпламаты, каб ён выступіў супраць прыняцця непажаданага для суседняй краіны закона) выступіць супраць законапраекта - і ён адпрэчваўся паводле прынцыпу «liberum veto». Выступаючы супраць якога-небудзь рашэння сойма, шляхціц не быў абавязаны абгрунтоўваць свой пратэст якімі-небудзь меркаваннямі. Звычайна магнаты, якія кіравалі палітычным жыццём Рэчы Паспалітай, самі ж паралізавалі дзейнасць сейма. Зрыў працы сейма становіцца звычайнай з'явай. Права «liberum veto» строга ахоўвалася, так як лічылася, што замах на яго абмяжуе «шляхецкую свабоду» - адну з найважнейшых асноў польскай дзяржаўнасці. Абласныя сходу шляхты (соймікі) дзейнічалі цалкам самастойна і толькі ў інтарэсах мясцовай шляхты, што ўзмацняла дэцэнтралізацыю краіны.

У 18 стагоддзі з 48 сесій сойма былі сарваныя 15, яшчэ тры (у 1701, 1733, 1756 гг.) спынілі працу па іншых прычынах, а два сойма (1717 і 1793) ўвайшлі ў гісторыю як «нямыя», бо дэпутаты на іх не выступілі. Магнаты ў сваіх уладаннях дзейнічалі незалежна ад цэнтральнай улады, іх землі ўяўлялі сабой «дзяржаву ў дзяржаве". Нягледзячы на забароны соймаў, сістэматычна ўтвараліся шляхецкія групоўкі, так званыя «канфедэрацыі», адстойваць свае інтарэсы узброеным шляхам. Фактычна іх дзеянні з'ўляліся грамадзянскімі войнамі рознай ступені інтэнсіўнасці. Палітычная і ваенная слабасць Рэчы Паспалітай прывяла да таго, што яе тэрыторыя стала «прахадным дваром» для армій суседніх дзяржаў. Войскі Расіі практычна не пакідалі тэрыторыю Рэспублікі. Рэч Паспалітая была моцна аслаблена і ў ваенным дачыненні. Феадальнае войска, у якім пераважала конніца, якая адрознівалася недысцыплінаванасцю, страціла сваё значэнне. Большая частка рэгулярнага войску складалася з замежных наймітаў. Ваеннае камандаванне не карысталася аўтарытэтам, яго дзейнасць характарызавалася жахлівымі злоўжываннямі. Войскам часам не выплачвалася жалаванне, у такіх выпадках салдаты разыходзіліся па дамах або рабавалі шляхецкія маёнткі і сялян.

Унутраны крызіс ускладняўся неспрыяльнай знешнепалітычнай сітуацыяй. Пасля Сямігадовай вайны склаўся даволі трывалы саюз паміж Расіяй і Прусіяй. Абодве гэтыя дзяржавы былі зацікаўлены ў тым, каб Рэч Паспалітая заставалася слабой і нестабільнай. З дапамогай дыпламатычных сродкаў, а то і прамога ваеннага ўмяшання, яны праводзілі тут зручную для сябе палітыку.

Усё гэта прывяло да сумнага агульнавядома лагічнага завяршэння: трох раздзелах Рэчы Паспалітай паміж Прусіяй, Аўстра-Венгрыяй і Расіяй.

**Артыкул:** *Арцёма Аблажэкі*

# *Гродненские татары*

Тюркское население Беларуси вначале состояло из трех элементов: оседлых наёмников, союзных воинов татарских орд из улусов, что попали в плен, и выходцев с Золотой Орды и Крыма, что, устав от невзгод и смуты в своем государстве, сами добровольно переселились в Великое Княжество Литовское (ВКЛ).




Татар селили в ВКЛ, потому что ценили их военные способности, боевые качества, стремились привлечь степных всадников на службу. Еще в XIV в. существовали поселения татар, однако наибольшее число татар осело в Беларуси в эпоху княжения наиславнейшего из всех тогдашних владетелей Северной Европы, князя Витовта. Белорусские татары сохранили добрую память о нем. Витовта они прославляли в своих песнях, за его здоровье молились, считали его “наисильнейшим из всех князей”. Большинство из татар, что пришли за Витовтом были неженатыми, и Великий князь позволял им жениться с местными девушками, однако с условием, что каждый из них должен иметь одну жену. Так и пошел у белорусских татар обычай однобрачия.

Татары помогали защищать государство. Татары-казаки размещались в окрестностях нашей родины, имели своих атаманов и подчинялись хорунжим. Тюркское слово “казак” означало в орде людей, что, порвав связь со своим родом и собственным князем, занимались военным делом как вольные наемники. Они находились как будто за рамками феодальной структуры ордынского сообщества. В их отрядах были не только простые воины, но и выходцы из знати, княжичи. В списках татарского войска 1528-1567 годов упоминаются такие атаманы, которые возглавляли славные знамена лососняских татаров-казаков

Татары-казаки размещались в окрестностях нынешней деревни Лососна Барановичского сельсовета Гродненского района, в бассейне реки Лососянки и ее притоков с правой стороны Прорвы, Подлипки, Каменки, и с левой стороны Крутишки и Татарки (раньше называемой Нырцом) с Нуркой, или Папилией. Длина реки Лососянки 45 км. Татарских поселений здесь было много. Это были преимущественно поселения хуторского типа на одну-две семьи. Все земли входили в Гродненскую королевскую экономию. В те времена к поселениям хуторского типа относились Кульбаковщина, Абердовщина, Багдащина, Качановщина, Казаковщина, Жидовщина, Лососна Алинская и другие. Недалеко от реки Лососянки находились и большие татарские деревни: Дайлидки, Королино, Тарусичи и деревня Гневеньщизна. Наиболее старыми татарскими поселениями на территории нынешнего Гродненского района были деревни Чёртак и Кадыш на реке Черная Ганча и деревня Малое Димитково около Лососянки, а также Свяцк.

В архивных бумагах отмечены и фамилии бывших жителей поселений: Измаил Сяхнович, Кульзиман Аразович, Кульзиман Касимович, Джанчук Фатлыгович, Асан Бузинович, Урус Алан и другие. Имеются фамилии князей, которые занимали ответственные посты, мул бывшей Лососнянской мечети, которые происходили из представителей княжеского рода Фатлагодичей и Бузуловичей.

Более низкие, чем князья должности занимали “Уланы”, в том числе Ахмет Улан Асанчукович, Чумбай Улан Малошицкий и Димидовские.

В те времена у татар-казаков единым измерением был “конь”, это означает, надел земли или усадьба, с которого владетель, в соответствии с тогдашними нормами, должен был выставлять одного всадника. Размеры участков не были точно определены, особенно

в околицах реки Лососнянки. Первые земельные жалованья татар-казаков относятся к временам Витовта. Земля давалась сразу на целые группы татар.
Лососнянские татары-казаки в основном занимались земледелием, коневодством, кушнерствам, огородничеством и разведением рыбы, особенно лосося и форели. Для разведения этих рыб очень подходила чистая, родниковая вода Лососны и притоков. Кроме этого некоторые из татар-казаков служили в те времена в канцеляриях великих князей талмачами, татарскими писарями, ездили с поручениями в Большую Орду и Крым.
Уже в середине XVI ст. белорусские татары, в том числе и лососнянские татары-казаки, не умели разговаривать по-татарски, стали использовать другие языки, в основном белорусский. Они уже не могли контактировать с жителями мусульманских стран. Произошли процессы полной ассимиляции татар по причине, главным образом, смешанных браков: многие татары брали белорусок. Однако же, не смотря на это, белорусские татары, в том числе и лососнянские татары-казаки, еще долгое время берегли свои специфические черты, не исчезали в общей масс населения ВКЛ, так как по-прежнему исповедовали ислам.
Кроме военной службы гродненские татары исполняли и другие функции. В книге Ю. Иодковского "Гродно" (1928) отмечено, что татары в 1508 году обратились к королю с просьбой, чтобы он их освободил от несения сторожевой службы в Гродно, к которой их неволил староста Александр Юрьевич князь Гольшанский. Король удовлетворил просьбу татар.
Белорусские татары настолько сжились с местным населением, что часто даже выступали против своих единоверцев крымских татар. В актах Литовской Метрики находим интересный ответ белорусских татар, который был дан ими единоверцам, что творили тогда грабежи на границах: "Ни Аллах, ни пророк, писали они, не предписывал вам грабить, а нам быть неблагодарными. Мы считаем вас хищниками и саблями нашими поражаем грабителей, а не братьев наших".
В соответствии с переписью 1989 года в Беларуси жило 12,5 тысяч татар. Многочисленные белорусские фамилии напоминают нам бывших татар: Шейбак, Ажгирей, Салей, Бут-Гусаим, Чабанович и другие. Например, в деревне Кунцевщизна Индурского сельсовета Гродненского района более половины ее жителей имеют фамилию Салей. Можно утверждать, что и они далекие потомки бывших татар, хотя все считаются белорусами.
XX ст. было тяжелым для гродненских татар репрессии, разрушение мечетей, ассимиляция. Его можно в чем-то сравнить с XVII ст., когда рост неталерантности, войны, неурожайность земель вокруг Лососянки, судебные репрессии магнатов и крупной шляхты на татарские земли все вместе вызвало массовый выезд татар в Турцию, а также в другие места ВКЛ, в частности, в Слоним. Позднее, после разделов Речи Посполитой, другая часть местных татар переехала с деревень в Гродно на улицу Банифратерскую, позднее переименованной в татарскую (теперь улица Свердлова).
Мусульманское сообщество Гродно запланировала построить в лесопарке Румлево мечеть. Возникает вопрос, почему это будет делаться в Румлево, которое не связано с татарской историей, а не в Лососно, где до 1915 года и стояла мечеть.



***19 студзеня 1546 г. — вялікі князь Жыгімонт Аўгуст зладзіў у Белавескай пушчы паляваньне, у якім таксама ўдзельнічала Барбара Радзівілянка.***



# Перыяд, калі Гродна дасягнуў свайго росквіту

Гародня – старажытны, адзін з найпрыгажэйшых гарадоў былога Вялікага княства Літоўскага. Свайго росквіту ён дасягнуў пры праўленні Стафана Баторыя, караля польскага і вялікага князя літоўскага.

Упершыню ён наведаў Гродна ў 1579 годзе, дзеля ўдзелу ў пашыранай нарадзе Сената Рэчы Паспалітай, дзе абмяркоўваўся дальнейшы ўдзел Вялікага княства Літоўскага ў Лівонскай вайне. Баторы адразу палюбіў наш горад, які па лягендзе ласкава называў Кронан. Ён зрабіў наш горад сваёй рэзідэнцыяй. У той час Гродна з усіх бакоў абкружалі вялізарныя, сапраўды каралеўскія, пушчы, і кароль Рэчы Паспалітай у часы свайго адпачынку мог заўсёды займацца сваім любімым заняткам – паляваннем.

Стафану Баторыю вельмі спадабаўся гарадзенскі Стары Замак. Па ягоным прыказе яго перабудоўваюць у каралеўскі палац у стылі рэнесансу па праекце Санці Гучы з Фларэнцыі, які стаў не толькі больш прыстасаваным да жыцця каралеўскага двара, але і застаўся ўмацаваным збудаваннем. Адметным быў знешні выгляд палаца. Фасады і франтоны аздаблялі сграфіта і разьба, вокны мелі тонкія ліштвы з раслінным арнаментам. Найбольш цікавай была вялікая зала, яе скляпенне трымалася на арыгінальных сяміграннных слупах. Ажно да 1880 году над брамай знаходзіўся герб Стафана Баторыя, які быў зняты расейскай вайсковай адміністрацыяй. Сапраўды, перад падарожнікамі апошняй чвэрці XVI стагоддзя адчыняўся вельмі прыгожы выгляд на каралеўскі палац, ўхутаны шчыльным кольцам старажытных дрэваў, на высокім маляўнічым абрыве Нёмана.




***Замак Баторыя на гравюры Т. Макоўскага, 1600 г.***



***ЗамакБаторыя. Від з усходняга боку. Рэканструкцыя У. Бачкова***

Баторыю належыць ініцыятыва будаўніцтва мураванай Фары Вітаўта, які на думку сучаснікаў Стафана Баторыя "стаў самым прыгожым і вялікім касцёлам княства". Гэты касцёл, пабудаваны ў стылі готыкі, адразу стаў дамінантным у сілуэце горада і ўзвышаўся ў самым сэрцы горада,быццам назіраючы за жыццем гарадзенцаў іахоўваючы гараджан ад усіх няшчасцяў. Гэты велічны касцёл цешыў позірк многіх пакаленняў гарадзенцаў. Ён вытрымаў войны і пажары, перыяды ўзвышэння і заняпаду, нават паспеў пабываць праваслаўным саборам і, здавалася, будзе існаваць, пакуль існуе Гродна ... але быў зруйнаваны па рашэнні мясцовых уладаў у 1961 годзе. На жаль, сёння мы маем магчымасць убачыць гэты цуд толькі на старых фотаздымках і карцінах…




***Стары Замак сёння***




*Фара Вітаўта на гравюры Т. Макоўскага, 1600 г.*



*Руіны Фары Вітаўта, 1961 г.*

\Менавіта гэты кароль прыпанаваў адчыніць Гарадзенскі езуіцкі калегіўм, але нечаканая смерць манарха парушыла гэтыя планы.Ён быў адчынены ўжо значна пазней.

Навогуле ў часы кіравання Стафана Баторыя, Гродна стаў трэцім горадам Рэчы Паспалітай пасля Кракава і Вільні. Ніводзін з каралёў польскіх і князёў Вялікага княства Літоўскага не надаваў столькі ўвагі развіццю Горадні, як Стафан Баторы. Гарадзенскім жыхарам ён надаў шэраг ільгот і выдаў прывілей для саборнай Прачысценскай царквы. У гэтыя часы кожны трэці сойм праходзіць у Гродна, існуе каля сямі касцёлаў і цэркваў, дзейнічаюць каталіцкія ордэны.

Нягледзячы на сваю даволі актыўную палітычную і культурную дзейнасць, Гродна – ціхі і спакойны горад, насельніцтва якога складае толькі чатыры тысячы чалавек (дзеля параўнання – насельніцтва Бярэсця у гэты ж час каля дзесяці тысяч чалавек). Зразумела, чаму Баторы так любіў працаваць і адпачываць у ім.

На жаль, нечаканая смерць 12 снежня 1586 года караля РП Стафана Баторыя парушыла мноства цікавых планаў караля, і хто ведае, ці займаў бы Гродна(ды і Беларусь) месца ў свеце, якое ён займае зараз, каб не раптоўная смерць караля? Ён памёр у час, калі вялася падрыхтоўка да новай вайны з Маскоўскім княствам. У час свайго кіравання ён зрабіў надзвычай важную справу – ён дасягнуў пералому ў змаганні з Масквой. Маскоўскае княства ад канца 15 стагоддзя трымала агульную стратэгічную ініцыятыву ў вайне з Рэччу Паспалітай. Стафан Баторы здолеў пераламаць яе, але на жаль наступныя каралі Рэчы Паспалітай не мелі ягонага таленту, каб давесці гэты перелом да лагічнага канца.

Яркі след Стафан Баторы пакінуў не толькі як выдатны палітык і мужны ваяр, але і як рэфарматар, мецэнат. З ягонай санкцыі пачынае дзейнічаць Галоўны Трыбунал ВКЛ, менавіта прывілеем Баторыя Віленскі езуіцкі калегіум ператвараецца ў акадэмію, атрымлівае дазвол на будаўніцтва Полацкі езуіцкі калегіум, была рэфармавана грашовая сістэма… Гэты спіс можна працягваць вельмі доўга. Ён шмат чаго зрабіў да дзяржавы, што не была для яго радзімай, але стала роднай, а Гародня – малой радзімай.

Нават і сёння нашчадкі з любоўю ўспамінаюць караля Рэчы Паспалітай Стафана Баторыя і называюць Гродна "горадам Баторыя". У ягоны гонар у міжваенны перыяд яго імем была названа галоўная плошча горада, а сёння адна з гарадзенскіх вуліц завецца вуліцай Баторыя.

### *Дадатак*

Апытанне «Хто такі Стафан Баторы?» праведзена 16-17 лютага 2013 сярод гарадского насельніцтва ў колькасці 20 чалавек ва ўзросце ад 12 гадоў у горадзе Гродна.

Згодна з праведзеным апытаннем, толькі 50% апытаных ўказалі на Стафана Баторыя, як на гістарычнага дзеяча. 45% гараджан не ведалі адказу на пытанне, а ў 5% паўсталі асацыяцыі з крамай «Баторыя», размешчанай на Савецкай плошчы ў цэнтры горада.

Сярод асоб, якія звязалі Баторыя з гістарычнымі падзеямі (50%), 20% назвалі яго

польскім каралём. 25% апытаных не змаглі паведаміць нічога больш канкрэтнага, альбо давалі няслушныя характарыстыкі (гродзенскі губернатар, літоўскі магнат, польскі князь, літоўскі кароль і інш.) На жаль, толькі 5% дакладна адказалі на пытанне, назваўшы яго другім выбарным манархам Рэчы Паспалітай, каралём польскім і вялікім князем літоўскім.

**Хто такі Стафан Баторы?**




**Спіс літаратуры:**

1. *Біяграфія гарадзенскіх вуліц. Ад Фартоў да Каложы / А. Вашкевіч, А. Госцеў, В. Саяпін, І. Трусау і інш. - Гародня-Wroclaw.: Гарадзенская бібліятэка, 2012. - 370 с.*
2. *Гардзееў, Ю. МагдэбургскаяГародня/ Ю.Гардзеяў. - Гародня-Wroclaw.: Гарадзенская бібліятэка, 2008.-382 с.*
3. *Гроднзнаўства / Госцеў А., Дабрыян. А.,Карнялюк В. і інш.- Гародня-Wroclaw.: Гарадзенская бібліятэка, 2012. - 340 с.*
4. *Королевский город Гродно /А. Гостев, А. Семенчук. – Мн: Рифтур, 2010.-70 с.*
5. *Краўцэвіч, А. К. Рыцары і дойліды Гародні / А. К. Краўцэвіч. - Гародня-Wroclaw.: Гарадзенская бібліятэка, 2009. - 108 с.*
6. *Кронон/А. Госцеў, В. Швед.- Гродно, 1993.- 320 с.*
7. *Лавровская, И. Б. Брест. Первое тысячелетие/ И. Б. Лавровская.- Мн.: Рифтур,2010. - 100 с.*
8. *Саяпин, В. Гродненские костелы. Послевоенная история. Документы и фотографии / В. Саяпин. – Гродно: ЮрСаПринт, 2012. – 136 с.*

**Артыкул:** *Перагудаў Аляксандр, студэнт 1 курса 1 групы гістарычнага факультэта ГрДУ*



## Цікавыя факты

*Сто гадоў назад на тэрыторыі Брэсцкай цытадэлі праходзілі выпрабаванні прататыпа першай рускай ракеты. У 1913-м пачата мадэрнізацыя цытадэлі: будаўніцтва другога кольца ўмацаванняў, у праектаванні якога прыняў удзел Зміцер Карбышаў. Цалкам да пачатку Першай сусветнай кольца так і не было скончана, і ўсё ж ужо праз год Брэсцкая крэпасць мела 5 абарончых жаўнерань, 7 парахавых скляпоў, 14 фартоў, 38 артылерыйскіх батарэй і 21 прамежкавы апорны пункт.*



Наступны нумар будзе цалкам прысвечаны

**150 гаддзю з пачатку (1863) нацыянальна-вызваленчага паўстання ў Польшчы, Беларусі і Літве**



# *Гістарычны каляндар*

Галоўныя падзеі студзеня

**1 студзеня 1918 г.**
Утварэнне БССР, бальшавікі, хоць і не прызнавалі беларускае нацыі, двойчы стваралі БССР (называлася яна тады ССРБ): 1 студзеня 1919 года і ў канцы ліпеня 1920 года.

**2 студзеня 1793 г.**
Другі падзел Рэчы паспалітай. Рэакцыйнае магнацтва на чале з Севярынам Ржэвускім, Шчэнсным Патоцкім і Ксаверыем Браніцкім разгарнула барацьбу супроць Канстытуцыі 1791 года і звярнулася па вайсковую дапамогу да Расеі.

**4 студзеня 1808 г.**
90 гадоў з дня нараджэння Ваданосава Міколы (Мікалая Міхайлавіча) (1923 – 2006), беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**4 студзеня 1925 г.**
У Мінску прайшоў І-ы Усебеларускі з'езд настаўнікаў.

**5 студзеня 1923 г.**
90 гадоў з дня нараджэння Кіракозава Мамікона Георгіевіча (пам. 1998), дзеяча самадзейнага мастацтва, балетмайстра, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**5 студзеня 1104 г.**
Нарадзілася Еўфрасіння Полацкая (у міру Прадслава), нарадзілася каля 1104 г. у Полацку ў князеўскай сям'і. Яе бацькам быў малодшы сын Усяслава Чарадзея Святаслаў-Георгі.

**6 студзеня 1892 г.**
Нарадзіўся Адам Станкевіч. Паводле даробку ў культуру й наагул у нацыянальнае жыцьцё беларусаў Адам Станкевіч выглядае сваім сярод Скарыны, Каліноўскага, Багушэвіча – тых, чыім стваральным духам ён натхняўся.

**8 студзеня 1848 г.**
165 гадоў з дня нараджэння Наркевіча–Ёдкі Якуба Атонавіча (пам. 1905), прыродазнаўца, медыка, стваральніка метэаралагічнай станцыі (стварыў у сваім маёнтку ў 1888 г.)

**11 студзеня 1888 г.**
125 гадоў з дня нараджэння Каранеўскага Язэпа Пятровіча (пам. 1937), дзяржаўнага дзеяча Беларусі, правадзейнага члена Інстытута беларускай культуры, рэктара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1929 – 1931 гг.).

**14 студзеня 1893 г.**
120 гадоў з дня нараджэння Буйло Канстанцыі (сапр. Калечыц Канстанцыя Антонаўна) (пам. 1986), беларускай паэтэсы, заслужанага дзеяча культуры Беларусі.

**14 студзеня 1918 г.**
95 гадоў з дня нараджэння Анікіна Віктара Іванавіча (пам. 1997), заслужанага архітэктара Беларусі.

**15 студзеня 1898 г.**
115 гадоў з часу заснавання газеты ліберальнага кірунку "Витебский листок".

**15 студзеня 1938 г.**
75 гадоў з часу стварэння у Беларусі (пасля ліквідацыі акруг) Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай, Мінскай і Палескай абласцей

**16 студззеня 1943 г.**
70 гадоў з дня нараджэння Чарняўскага Міколы (Мікалая Мікалаевіча), беларускага паэта і празаіка

**21 студзеня 1818 г.**
195 гадоў з дня нараджэння Кіркора Адама Ганорыя (пам. 1886), гісторыка, археолага, этнографа і грамадскага дзеяча.

**23 студзеня 1918 г.**
95 гадоў з пачатку выдання абласной грамадска-палітычнай газеты "Магілёўская праўда".

**28 студзеня 1588 г.**
425 гадоў назад зацверджаны Трэці Статут Вялікага княства Літоўскага, збор законаў феадальнага права, унікальны помнік беларускай мовы, пісьменнасці і юрыдычнай думкі.

**31 студзеня 1823 г.**
190 гадоў з дня нараджэння Быкоўскага Яксы Пятра (пам. 1889), польскага пісьменніка, збіральніка і даследчыка беларускіх народных песень і абрадаў.

**31 студзеня 1928 г.**
85 гадоў з дня нараджэння Юрчанкі Георгія Фёдаравіча, беларускага паэта-сатырыка, парадыста, мовазнаўца, крытыка.


**Заснавальнік:** Студэнцкая гістарычная суполка "Аматары Беларускай Гісторыі імя В. Ю. Ластоўскага"
**Галоўны рэдактар:** Дамарад В. А.
**Кантактныя тэлефоны:** (029) 732-75-93
**E-mail:** Recoba20.bel@mail.ru . **Інтэрнэт:** www.amataribelhist.gumshpora.ru
**Наклад:** 50 асобнікаў

# 275 гадоў з дня нараджэння Нарбута Казіміра (1738 – 1807), беларускага асветніка і філосафа

